# ПТУШКІ ЛЁГКІХ ПАВОДЗІНАЎ

ВЕРШЫ, ПРОЗА І ПЕРАКЛАДЫ
ФІНАЛІСТАЎ КОНКУРСУ
ІМЯ ЧЭСЛАВА МІЛАША




2011

Λ

# ПТУШКІ ЛЁГКІХ ПАВОДЗІНАЎ

Вершы, проза і пераклады
фіналістаў конкурсу маладых літаратараў
імя Чэслава Мілаша




2011

Мінск
І. П. Логвінаў
2013

## Чэслаў Мілаш

### **Свет: Наіўная паэма** (фрагменты)

*Дарога*

Там, дзе зялёныя сцелюцца долы,
Сцежкаю, што зарасла напалову,
Дзеці дадому імчацца са школы
Цераз убраную квеццем дуброву.

Ціха начынне грукоча ў пенале —
Крышачкі булкі з асадкаю новай,
Грошыкі медныя — мы іх збіралі,
Каб прывітацца з зязюляй вясновай.

Братава шапка, берэцік сястрыцы
Ў пышным кустоўі мільгаюць часамі.
З сокатам сойка ў галлі мітусіцца,
Доўгія хмары плывуць над лясамі.

Дах чырванеецца за паваротам,
Бацька гародчык матыкаю поле,
Хіліцца, злёгку чапляе лістоту.
З градак ён бачыць усё наваколле.

*Веснічкі*

Потым іх хмелю спляценні схаваюць:
Толькі да лета мы колер іх бачым,
Колер гарлачыкаў, што абрываюць
Людзі ў ставах надвячоркам гарачым.
Зверху іх злёгку падмазалі белым —

Нібы агеньчыкі ззяюць на коллі.
Дзіўна — аднойчы там туркаўка села:
Птушак штыкетнік не пудзіў ніколі.

Гладкаю стала драўляная клямка —
Дотыкі выцерлі дрэва дазвання.
Жоўты язмін тут — зіхоткая плямка,
Ад крапівы тут няма ратавання.

## *Ганак*

Ганак дзвярыма на захад. Заўсёды
Грэе там сонца. Шырокія рамы.
Бачна адтуль наваколле: гароды,
Лес, і прысады, і ўся панарама.

Як апрануцца ў зяленіва гоні,
Цені ад ліпаў накрыюць паўградкі,
Свет за карою блакітнаю тоне,
Лісцем зубчастым парваны на латкі.

Брат і сястра над паперай галовы
Хіляць, малюючы буры і штылі,
І языком памагаюць ружовым
Лодцы, якую амаль патапілі.

## *Ядальня*

Пакой. І там маўчыць у цемры бурай
Гадзіннік гданьскі. Вокны невысока.
А над сафой, абцягнутаю скурай,
Смяюцца пыскі чорцікаў разьблёных,
І медны рондаль ззяе гладкім бокам.

Карціна на сцяне. «Зіма» завецца:
На коўзанцы між дрэваў — незлічоны
Натоўп, і дым над комінам віецца,
І ў шэрым небе лётаюць вароны.

Яшчэ адзін гадзіннік. Ён — з зязюляй,
Што тройчы голас падае сарваны.
Калі мы трэці крык зязюльчын чулі,
Нам разлівала маці суп духмяны.

## *Сходы*

Пахнуць мастыкаю вузкія сходы,
Ўверх узбіраюцца жоўтай дугою.
З краю мыском станеш без перашкоды,
А ля парэнчаў ледзь ступіш нагою.

Голаў дзік***а*** падаўжаецца ценем,
Іклы растуць — вось ён, страшна застылы,
Штосьці вынюхвае там, на скляпенні,
А прамяні распаўзаюцца ў пыле.

Маці, высокая, з тоненькім пасам,
Сходзіць са свечкай дрыготкай і кволай.
Цень яе з ценем сустрэўся ікластым.
Б’ецца адна яна з грознай жывёлай.

## *Малюнкі*

Вось кніга. Моль трапечацца няроўна
Над калясніцай, пылам і дарогай,
Зачэпіш — сыпле срэбны пыл няўлоўны
На грэцкі горад, што бяруць аблогай.

Вось цела прывязалі да двухконкі,
Аб пліты б'ецца галава героя,
А матылёк, прыбіты да старонкі,
Трапечацца ледзь-ледзь у цэнтры Троі.

І ў той жа час насоўваецца бура,
Паспешліва адчальваюць трыеры.
А побач шыі гнуць валы панура,
І ўзворвае араты бераг шэры.

### *Бацька ў бібліятэцы*

Высокі лоб і позірк утрапёны,
Гуляюць блікі сонца з валасамі.
Вянчае бацьку пыл, нібы карона,
Калі разгорне кнігу ён часамі.

У каляровых строях чарадзея
Заклёны шэпча ён падчас чытання:
Схавана ў кнізе безліч дзіўных дзеяў
Для вучня Бога ў справах чаравання.

### *Бацькавы заклёны*

«Мысляр ласкавы, о які ціхмяны
Дар веды твой, як рада сэрца дару!
Цябе люблю я і табе адданы,
Хаця твайго і не пабачу твару.

Даўно разнеслі прах вятры і воды,
А разам з імі кожны шал забыты,
Ты дасканалым стаўся назаўсёды,
Як кніга, думкай ўзятая з нябыту.

Зазнаў ты скрухі і зазнаў адчаю,
І знікла памяць пра грахі й пралікі.
Чым дарагі ты сёння мне, я знаю:
Малыя людзі, іхны плён — вялікі».

## *З акна*

За полем, лесам і за іншым полем —
Вады люстэрка і нябёс бяздонне,
Зямля сыходзіць залатым падоллем
У мора — як цюльпан у місе, тоне.

І кажа бацька: там ляжыць Еўропа —
У ясны дзень уся як на далоні,
Яшчэ не адышла пасля патопу,
Прыстанак для людзей, сабак і коней.

Там яркіх гарадоў іскрацца вежы,
Плятуцца срэбнай ніткай ручаіны,
І ветахі пагор’яў на бязмежжы
Ляжаць то тут, то там, як пух гусіны.

## *Бацька тлумачыць*

«Там, дзе той промень кранае даліну,
Цень уцякаць прымушаючы спрытна,
Горад стаіць, не стары, хоць і слынны,
Гэта — Варшава, што ветру адкрыта.

Трохі далей, дзе дажджоў перазвоны,
Там, дзе пагоркі ва ўборах з акацый, —
Прага. І замак на ўзвышшы цудоўны,
Згодна з традыцыяй фартыфікацый.

Тое, што дзеліць краіну надвое, —
Альпы. І піхты чарнеюць на ўзгор'і.
Там жа, дзе сонца плыве залатое, —
Сіняй Італіі сподак на моры.

Між гарадоў — там стаіць іх даволі —
Вызначыш Рым, хрысціянства сталіцу:
Круглыя дахі блішчаць на касцёле,
То бок святога Пятра базіліцы.

А за марскою затокай, на поўнач,
Там, дзе імгла ахінула раўніны,
Вежы Парыжа гуртуюцца побач,
Статкі мастоў над ракою гнуць спіны.

Тут за Парыжам — апошняе слова:
Мода на шкло і жалеза квітнее.
Толькі на сёння — і так дастаткова,
Апавяду табе рэшту пазней я».

## *Прыпавесць пра мак*

На макавінцы — хатка і гароды,
Сабачкі брэшуць, месяц спее макам.
Што гэты свет шырэйшы за гасподу,
Не здагадацца макавым сабакам.

Зямля — зярнятка, і не больш за тое,
Планеты, зоры — іншыя зярняткі.
І хай сто тысяч іх і нават болей,
На кожным могуць быць такія хаткі.

У маку — свет. А мак — на агародзе
Качаецца ў дзяцей навідавоку.
А ўвечары, як месяц узыходзіць,
Чуваць сабак — то блізка, то далёка.

## *Ля півоняў*

Гараць півоні белым і ружовым,
А ў кожнай, быццам у духмяным збане
Сядзяць жукі — яны вядуць размовы…
Камусьці — кветка, а жуку — прыстанне.

Стаіць над клумбай маці і пялёсткі
Перабірае, выбраўшы сцяблiну,
Каб вывучыць півоневыя вёскі,
Дзе ў год ператвараецца хвіліна.

Крыху пазней яна сабе і дзецям
Раскажа пра здагадкі, думкі, мары.
А з лісцем весела гуляе вецер
І кропачкі святла бягуць па тварах.

## *Вера*

Прыходзіць вера, калі хтосьці бачыць
Лісток на хвалі ці расу на травах
І ведае: іначай немагчыма.
Заплюшчы вочы ці згасі святло —
На свеце будзе тое, што было,
А ліст на хвалях праплывае міма.

Прыходзіць вера, калі хтосьці зраніць
Нагу каменнем — з ведай, што каменне
Існуе для таго, каб раніць ногі.
Глядзіце: дрэва пакідае цені,
Вось цені — нашы, кветак — у спляценні:
Нішто без ценю жыць не мае змогі.

## *Прагулка ў лес*

Дрэвы сягаюць абшараў нябёсных.
Сонца, сыходзячы долу з вышыняў,
Паліць агні на падсвечніках-соснах —
Мы ж тут малыя, на гэтай сцяжыне.

Злучым далоні, падняўшы галовы,
Каб не згубіцца ў траве, нібы ў гаі.
Ноч апячатвае кветкі, ды новай
Фарбай штохвілю сусвет палыхае.

А ў вышыні, дзе бяседа й чырвоным
Віны блішчаць у асінавай медзі,
Едуць карэтаю госці з паклонам
Да таямнічых князёў ці мядзведзяў.

## *Царства птушак*

Цяжкія глушакі ў гульні вясёлай
Над лесам неба крыллем разразалі,
У гай завоблачны вяртаўся голуб,
Як самалёт, крумкач ільсніўся сталлю.

Зямля для птушак — змрочныя азёры,
Яна ў палоне вечнае навалы.
Для іх адных над гэтай чорнай хваляй
Святло дамкі і выспы ўратавала.

Калі яны спакойна чысцяць пёры,
Губляючы адно, яно павінна
На дно азёраў пракружыцца мройна,
Калі ж кране шчаку — лятуць навіны
З краіны светлай, вольнай і спакойнай.

## *Знайшліся*

«Тут я. Адкуль баязлівыя словы?
Ноч прамінае, і дзень ужо хутка.
Чуеце — грае ражок пастуховы,
Зоры ў тумане згасаюць ціхутка.

З нетраў вядзе нас сцяжына лясная.
Вёска напоўніла звонам абшары,
Певень на плоце святло сустракае,
Поле шчаслівае ў ранішняй пары.

Тут яшчэ ноч. На бруснічнай паляне
Чорная мгла, як рачное разводдзе,
Ды на хадулях ступае світанне,
Коціцца сонечны шарык на ўсходзе».

## *Сонца*

Не мае сонца колераў, затое
У ім усе яны ў адно зліліся.
І ўся зямля — паэма, а над ёю
Маэстра-сонца палымнее ў высі.

І той, хто фарбай свет расквеціць хоча,
Няхай на сонца не глядзіць ніколі,
Бо выесць сонца памяць, нібы вочы,
І застануцца толькі слёзы болю.

Хай ён укленчыць і шукае ў лісці
Праменне, што адбілася ад глебы.
Там будзе ўсё, забытае калісьці:
Змярканні й ранкі, ружы, зоры, неба…

*Пераклала з польскай Ганна Янкута*

# Маргарыта Аляшкевіч

## Прызнанне

Вось я
на тваёй далоні
ідыётка
сяджу
нагамі боўтаю
цябе кахаю

## Раніца

Словы тоўпяцца на ганку
зранку.
Я сашчоўкну ім на згубу
зубы.
Не ўпалююць і не зловяць
словы
мой нявыспаны і голы
голас.

## Вечар

Льецца басанова ў цёплым вечары
па пяску, слядамі пакамечаным.
Вецер пазяхае ў рог бамбукавы,
так ляжым, ахутаныя гукамі,
танчым хвалям танцы пракаветныя,
на тымпанах сэрцаў грэем рукі мы…
Ноч плыве, бязгучнае каноэ,
мнуць і месяць месяц нашы ногі.

## Вясна-вандроўная

Так абрыдлі бяссільныя капяжы,
хоць бяжы і багаж пакідай на мяжы,
і на жоўтым аўтобусе ў тым кірунку,
дзе зямля выганяе не сокі — трункі,
дзе сонца звісае з неба выспелай чэры,
дзе сонца мяне зацалуе ў мой голы чэрап,
дзе вецер густы ад спеваў, хоць маж на хлеб,
дзе хлеба няма, чорнага хлеба, затое рыкае леў,
дзе босая дзеўка смяецца і б’е ў тамтам —
не плач па мне, хлопча, я буду шчаслівай там.

## Восень

З нябёсаў ссыпаюцца крылы й багі,
б’е лужы люстэркі злы месяц з нагі,
крышыцца ды коле крышталь дарагі,
рыпяць у сусветаў іржавыя восі —
цягаюць на возе памерлую восень.

## Ірыскі

Чакаю цябе
на чыгунцы
са жменькай ірысак

Хачу на салодкае
выманіць
твой цягнік

І — ён!
наляцеў!
пазяхнуў агнём твараў!
ды знік

На выспе самоты
кішэні выпальвае
прысак

## Страх

Спусціць з сябе тры скуры
і трыццаць тры —
і не знайсці нічога
ўнутры.

## Радаўніца

Калі ў горадзе ўсё дадзела,
я іду на клады, да дзеда,
там зязюля кувае звонка,
паляжу і паслухаю ніцма,
перад тварам у травах гронка —
дзед працягвае мне суніцы.

## На краі свету

Свет зацярушвае трухой,
а я на краі свету
жыву ў вежы, пад страхой,
і муж мой ветах.

Заўсёды стомлены, стары,
спаўзае мой дахаты
і спіць па содні два ці тры
пад зорным гафтам.

Сляпіцай сонца лезе ў дом —
і золата, і краскі,

частую госця гарбузом
і баю казкі.

У невідочную пару
душу самота цвеліць.
Дрымель і красаўкі вару,
густое зелле,

Ты выпі, ясік мой, да дна
маіх жывільных сокаў,
каб зноў ад змроку да відна
па небе скокаць.

Паўзе туман, на дол глядзіць
і долы доіць.
Трасе рагамі маладзік
над маладою.

## Staniki

Агата і Яна прымяраюць стanікі. Гэта іх улюбёны занятак. І хаця матывы ў іх розныя, дзеўкі разам рушаць паўз даўгія шэрагі вешалак, заўзята мацаюць, пагардліва адсоўваюць, абіраюць нарэшце два-тры варыянты і зашываюцца пад хіханькі гандлярак у прымяральню.

Яначка пазіруе нават у прымяральні. Паварочваецца да люстэрка, напружвае жывот, выгінае спіну і замірае на імгненне, гледзячы самой сабе ў вочы. У гэткія моманты яна шчыра дзівіцца самой сабе і гэтак жа шчыра ўсёй паставай запрашае Агату дый каго заўгодна падзівіцца, якое ў яе вабнае маладое цела, якая пругкая скура, як выпіраюць грудзі з навюткага станіка.

— Ды не цягні так, — раптам Яначка разбурае ідылію і пачынае вучыць Агату, што лінія ад грудзей да лапатак мусіць бяжаць роўна, а не касіць уніз да спіны. — Вось

глядзі, так, а то зараз зацягнеш, а тады спераду правісне. Ну як?

— Проста шыкоўна. — З Агатай не пагадзіўся б хіба Ёні Кук, але ўсе яны, мадэльеры, крыху таго.

— Слухай, прынясі мне гэны блакітны, але Цэ? І гэты, гэты таксама! — Крычыць Яначка наўздагон і высоўваецца над фіранкай разам з патрэбным станікам, тыцкае пальцам сабе ў грудзі.

Яначкін лямант праразае цішу гандлёвага цэнтру. Гандляркі, якія ані слоўца не цямяць у чужой ім мове, кідаюцца да прымяральні. Але неўзабаве, забачыўшы, што матузкі і не думаюць душыць пакупніцу, а косткі не ўпіваюцца ахвяры ў рэбры, пырскаюць смехам і адыходзяць, каб праз якую хвілю вярнуцца з неверагоднымі ідыёцкімі мадэлямі.

— Ноў, ноў, — спрабуе адбіцца ад гандлярак паўголая Яначка і нават загортваецца ў фіранку, але тыя ўпарта прыкладаюць да яе захутанай фігуры ямарантавы пеньюар у блякла-жоўтыя гарохі і з не менш як тонай карункаў.

— Ес, ес, соў прыці! — Адна з гандлярак спрабуе прычапіць вешалку з гэтым саванам панкавай бабулі да верха фіранкі, каб той трымаўся акурат ля Яначкінай шыі, а другая цягне люстэрка і падсоўвае, каб пакупніца магла сябе як след разгледзець, і прычмоквае: — Ўаў, соў прыці!

Нарэшце карнавал разганяе Агата, адпіхнуўшы адну назолу, пасміхнуўшыся другой і прыхапіўшы вар'яцтва з Янінай шыі — маўляў, памераем, дайце толькі волю.

— У іх няма Цэ, вось узяла табе 85 замест 80, паспрабуй.

У Агаты свой інтарэс. Яначка ўводзіць яе ў свет нармальнага дзявоцтва, вучыць яе любіць крамы, любіць рэчы, любіць іх выбіраць, падбіраць, спалучаць, атрымліваць задавальненне ў самім працэсе падбору. У Яначкі дзве крэдыткі, бацькоўская і матчына, плюс працэнт з паказаў і здымак, якія штотыдня выдае на рукі ейная агенцыя, таму яна купляе што заманецца і тады,

калі ў галаву цюкне, бо трэба ж неяк пазбаўляцца ад усіх гэтых грошай. У Агаты сціплыя ганарары са спазненнем на два месяцы, ніякіх картак і звычка ўздзябурваць зраніцы першае, што трапіцца.

— Во напхалі паралону! Глядзі, тут кішэнькі, каб можна было яшчэ падкласці… — Яначка аглядае новы станік недаверліва, быццам прыкідвае, ці бяспечна на ім пераплыць акіян.

— Ну, я іх добра разумею, у іх жа не грудзі, а прышчыкі. Паглядзі, мы ўжо ў чацвёртай краме запар не можам Цэ знайсці, усё А ды А. І навошта на А яшчэ станік чапляць?

— Ну, не ўсе ж маюць столькі нахабства, як некаторыя, — Яначка хітра глядзіць на Агату: кусне ці не.

— Пры чым тут нахабства, гэта элементарная зручнасць! Нашто ўздзябурваць на сябе гэтую збрую, калі дастаткова цягліц? — Агата ніколі не носіць станікаў, але Яначка не губляе спадзеву і ёй штосьці падабраць. Бо ў ейным ідэале шчасця кожны выхад з дома мусіць завяршацца мехам набытых прыгажосцяў, а сваёй сяброўцы яна, натуральна, зычыць акурат шчасця. Як і ўсяму свету, канечне.

Агата ўвогуле — не надта зручны аб'ект для перавыхавання. Вопратку мяняе, толькі каб папраць і назад нацягнуць, кіношак купляе па адной і пераглядае потым сто разоў, дый што гэта за кіношкі, там жа ані пацалуначку няма, не тое каб сапраўднай сцэны ў ложку. Заміж ласункаў грызе моркву, а замест драйвовай экскурсіі па начных клюбах завальваецца дрыхнуць і яшчэ Яначку з сабой цягне, пагражае ў іншым выпадку выдаць агенцыі, бо «трэба спаць, арганізм не падманеш».

— Гэта не збруя, — крыўдзіцца Яначка за свае прыўкрасныя станікі. — Я ведаю, для цябе гэта толькі анучкі, але ты толькі прымер, ну, давай, не пойдзеш жа з гэтага плямамі.

Яначка так глядзіць і так надзімае свае пульхныя вусны, што тут бы і Ёні Кук не стрываў, хоць ён і адмарозак, вычварэнец і ўвогуле, напэўна, транс.

— Ладна, ладна, давай сюды, які мне надзець? — Але, як бы Агата ні ўнікала гэтага пачуцця, ёй прыемны дотык халаднаватага шоўку, прыемная мяккасць цюлю, якім забраны верх станіка, ну і, канечне, колеры так і граюць, так і йдуць рэфлексамі: блакіт па бледнай скуры, малако на блакіце, ах, дзе вы, мае сябры мастакі, што гэта балаболка казала пра нейкія плямы?..

— Так, тут крыху падцягнем, — Яначка з веданнем справы прыладжвае станік на Агаце. — Зараз ты ведаеш як зрабі, я на сабе пакажу, вось так іх рукой знізу папраў, каб вышай ляглі, так, ага, малайчына, ну бачыш?

— Нічога сабе! — Агата здзіўлена глядзіцца ў люстэрка — там у шкілета напраўдзе ўзніклі-такі грудзі, нават нейкія такія акругласці крыху вышэй за блакітную лінію.

— А я ж табе кажу! Зараз давай майткі прынясу з гэтай жа калекцыі, зробім з цябе дзяўчыну, — Яначка знікае раней, чым Агата адкрывае рот, каб аднекацца.

І не паспявае Агата высунуць галаву над фіранкай, як з абодвух бакоў падбягаюць прадавачкі з новымі неверагоднымі камплектамі. Гэтым разам у іх гарсэты з бранебойнымі чашачкамі, адзін ядавіта-салатавы, а другі мройна-паласаты, падобны да зебры ў п’яным танцы, а да іх панталоны дзіцячых памераў, пра якія дзеўкі стракочуць штосьці ды ўсё ў каталогі тычуць, дзе прыўкрасная Яначка выгінае спіну і грае доўгай нізкай брутальных салатавых караляў.

— Ноў, яны ж для мяне замалыя! — спрабуе аднекацца Агата і тлумачыць сваю пазіцыю на пальцах, праўда, атрымліваецца ўсё пра нейкі сэкс кагосьці вельмі тоўстага з кімсьці надта худым. — Ту тайт, ту смол!

— Ноў смол, ноў смол, — смяюцца і вуркочуць прадавачкі і тыцкаюць пальцамі ў каталог, а каталогам Агаце пад нос, але ж там адно іерогліфы і вабная Яначка з чароўнай усмешкай, адначасова спалоханай і зазыўнай. — Ноў смол, лук, лук, місі!

Тут адна з прадавачак пачынае напінаць ядавітыя панталоны на сябе, паказваючы, як цудоўна яны цяг-

нуцца, пры гэтым усе дванаццаць ейных рознаколерных і рознафактурных спаднічак дзяруцца наверх, але чаго не зробіць добры гандляр для свайго пакупніка.

— Вой, нагавічкі з нашай рэкламы! — Яначка падплывае акурат у час, каб выбавіць Агату ад мусовага прымярання скуры п'янай зебры. — У нас было цэлае шоў гэтай лініі, яна ад цэлюліту, дык надта цісне, спачатку нічога, але потым як паходзіш, дык усё пачынае нямець, і гэта падумай толькі, калі мне цісне, як жа ўсім гэтым цэлюлітным цёткам будзе! На, вось гэтыя паспрабуй.

— Не, гэта ж стрынгі! — Агата змагаецца з стрынгамі з незапамятных часоў і пры кожным іх нападзе на яе абрастае голкамі, як дзікабраз.

— Ну так, стрынгі, і я настойваю, каб пані задавака проста надзела іх, а не разводзіла тут анцімоніі! Бачыць не магу твае гэтыя… сямейнікі! — Страшнейшай абразы ў яначкіным слоўніку проста няма, абстаноўка ў прымяральні вось-вось перарасце ў ваенны канфлікт, дзеўкі вырачылі адна на адну вочы і таго глядзі паб'юцца.

На люстэрку за Янaчкінай спінай праяўляецца спецыяльна для Агаты загаловак «Забойства ў прымяральні», побач з шчыльнага ад жарсцяў паветра збіраецца постаць рэдактара, у якога гараць вочы і драпежна раздзьмуваюцца ноздры, з стольні сыплюцца газетныя балонкі з каляровымі выявамі ахвяры, задушанай стрынгамі… Зрэшты, прыкінуўшы мізэрнасць ганарару ў параўнанні з даўжынёй турэмнага тэрміну, Агата бярэ сябе ў рукі, праганяе відмаў і заклікае сабе ў дапамогу занядбаных багоў мудрасці і цярплівасці:

— Сто разоў табе казала: стрынгі шкодныя для дзявочага здароўя, — Агата намагаецца надаць голасу аўтарытэтнасці замест нуды. — Яны ствараюць благі мікраклімат, ну, *там*, памятаеш, мы з табой карцінкі ў інтэрнэце разглядалі, што там бывае? Можаш потым мець праблемы з хлопцамі…

Гэты аргумент для Янaчкі вырашальны. Ейны інтарэс да Агаты, апрача жадання зрабіць увесь свет разам з гэ-

тай занудай шчаслівым, яшчэ і ў тым, каб дазнацца як мага болей пра хлапцоў і пра сэкс, і пра ўсё-ўсё, пра што ведае Агата ў свае дваццаць тры і не ведае Яначка ў свае шаснаццаць. Таму яна хуценька капітулюе і мяняе гнеўны тон на ліслівы:

— Я ж не кажу хадзіць так цалюткі дзень, прымер проста, ну, зрабі мне ласку, ну, я хачу на цябе паглядзець, ну калі ласка, ну няўжо табе так цяяаажка…

— Окэй, толькі не ный, давай сюды і схадзі прынясі мне штосьці нармальнае, а не з дзвюх нітак!

Пакуль задаволеная сваёй малой перамогай Яначка, квітнеючы, знікае за фіранкай, Агата лае ўсё на свеце, правярае, ці прыляпілася пракладка, саромеецца ўласнага адлюстравання, нарэшце паказвае яму язык, а там і свой хударлявы азадак з дзвюма блакітнымі пасачкамі.

— Ад-паад! — выдыхае Яначка з-за фіранкі, яна крыху пабойваецца ўваходзіць, пакуль не пабачыць Агату ў твар — ці не ўкусіць? Але Агата смяецца — надта ўжо нягеглы атрымліваецца адбітак: косткі, некалькі блакітных ліній, зноў косткі і немавед адкуль грудзі, а над імі пагражальна бачная грудзіна і драпежна вострыя ключыцы.

— Ну што, мо і мне на подыюм? — Агата выскаляецца і прымае адну з манерных позаў, якім вучыла надоечы Яначка, але тут жа хмурнее. — Гэй, і не думай нават, ты што, якая з мяне мадэля!

Але Яначка думае. І бачыць, што гэтая беласкурая шкілеціна прыйдзецца вой як даспадобы паскуду Ёні. У яе, канечне, аніякай грацыі, ані каліўца какецтва, але ж тут свой шарм, а гэтыя анарэксічныя пруткі з лакцямі акурат у модзе, і азіяты заўжды шукаюць святлейшую скуру…

— Так, адшчоўкні там, будзь ласкавая, і кінь на залу, у мяне ўсё адно грошай няма, дык чаго тут маскарад разводзіць. — Агата наўмысна бярэ строгі тон, каб хутчэй вярнуць Яначку да станікаў з паметай Бэ. — Дык на якім ты спынілася?

І гэта ў сто соты раз спрацоўвае. Каляровыя мае вы змоўшчыкі, анучкі вы мае выратавальныя, хай яна не думае нічога, гэтая прыгажуня з каровінымі вачыма, кружляйце ў ейнай галаве разам з шчасным ветрыкам светлых настрояў.

— Ну, можа, гэты…

— Надзень яшчэ раз, не памятаю ўжо, як сядзеў. — Агата адзін за другім прыкладае да Яначкі станікі, і неўзабаве шаўковы блакітны з цюлевым верхам надзейна схаваны. Наверх яго кладзецца станік смарагдавы з залатымі вышыванымі лісточкамі, затым ямарантавы з барвовымі бісернымі ружамі, затым паласаты чорна-белы з тонкім паскам карункаў. Персікавы са званочкам — м-м, у-ў, насіце як абярэг ад непрыемных думак.

— Ведаеш што, я, мабыць, вазьму ўсе, мне ўсе падабаюцца, — Яначка падхоплівае ўсю кучу бялізны і цягне да касы. Яна вельмі справядлівая і напраўдзе хоча зрабіць свет лепшым, таму мужна не выкідае блакітнага камплекту з гурбы, і нават самахоць плоціць за яго, пакуль Агата адбіваецца ад крамных гаспадынь.

— Місі, місі, лук! — гандляркі ад радасці не ведаюць, што бы яшчэ прапанаваць экзатычным пакупніцам, цягнуць за рукі, так што Агата пакрысе ператвараецца ў папугая і толькі талдычыць «ноў», «ноў», забываючы ўжо на тое «сэнкью», бо яшчэ прымуць за згоду.

— Бяры і не спрачайся, а не тое пакрыўджуся. — Яначка глядзіць загадзя сярдзіта, кусае вусны і хмурыць лобік. — У нас заўтра цэлы дзень кастынгі, паедзеш з намі і будзеш адпрацоўваць, казкі распавядаць.

— Але ж у мяне праца! — дзень з мадэлькамі Агаце страшна нават уявіць, а іхныя казкі! Пра першыя сто пацалункаў, ды як яно бывае, ды якія ў яе былі хлопцы, ды што з хлопцамі ўвогуле рабіць, а як…

— Будзе табе праца, там прыязджае сам спадар Кук, возьмеш у яго інцярв'ю, табе ж трэба эксклюзіў? За эксклюзіў добра заплоцяць.

Потым, уначы, Яначка ляжыць у адным з сваіх новых станікаў і горка плача, і робіць кандыцыянер на два градусы халадней, каб пабачыць, як Агата, мярзлявая шкілецiна, скурчыцца пад коўдрай, Агата, няўдзячная, для якой яна столькі зрабіла, столькі заўтра зробіць… А Агата лічыць ад тысячы назад, лічыць, лічыць дні, калі ў яе накопіцца дастаткова грошай, каб сплаціць штраф за пратэрмінаваную візу, семсот семдзесят тры, каб вярнуцца дамоў, семсот семдзесят два, каб купіць гэтай дурнічцы лялькy, семсот семдзесят адзін, бабу з во такімі цыцкамі, семсот семдзесят, бабу, якая не ведае, што такое станік, семсот шэсцьдзесят дзевяць, бабу, семсот, якая выкормлівае дзетак, семсот, дамоў, семсот пяцьдзясят тры, грошы, семсот пяцьдзясят тры, збілася, баба, семсот семдзесят тры, станікі, семсот, халодна як, семсот семсят два, трэба вярнуць ёй семсот.

Яначка пільна сочыць за Агацiным дыханнем, чакае, пакуль яно выраўняецца і запаволіцца. У руках Яначка мне новы станік, шаўковы, блакітны. Усе на свеце павінны быць шчаслівыя, гэта праўда. Але праца ёсць праца, і Тыдзень прапускаць няможна. (Цюль халодзіць шыю — можа, крыху вышэй, вось так, трэба ўсё зрабіць хутка). Шкада Агатку, але нашто яна такая худзенькая й бледная? (Не, лепей вось так, каб матузкі слізгалі праз спражку). Так, так — шчоўкае кандыцыянер.

Агатка дыхае каротка і хутка, гэта ўсё цяжэй, потым усхліпвае і заціхае.

Тады Яначка ідзе ў ванну. От жа, пазногаць зламала! І станік расцягнуўся… Ну ды можа, а прымеру, во. Прыгажуня з люстэрка ашчэрваецца усмешкай — блакітны станік і ёй пасуе. Цяпер можна спакойна спаць.

Станікі раздзьмуваюцца, як парашуты-спарышы, а на іх кудысьці ўніз падаюць, падаюць яначкі і агаткі, то яначкі, то агаткі, янагаткі, агатаяны, ятаганы, нагасакі, станікавы каляровы дэсант, навагодняе канфеці.

Добрай ночы, шуршастыя клункі. Добрай ночы, вуркот-кандыцыянер. Добрай ночы, новыя станікі.

## Taustuha

Яначка і Агата едуць на фотасесію. Дакладней, Яначка едзе на фотасесію, а Агатка карыстаецца з нагоды хутчэй дабрацца да метро. Яначкін букер вельмі задаволены і назвоньвае ў пробцы сваёй любай — напэўна, хваліцца, што многа заробіць. Бо яму прыпадаюць адсоткі ад кожнай работы, якую ўдаецца займець Яначцы. А гэтым разам так пашанціла — дзеўку ўпадабала галоўная дызайнерка тэкстыльнай фабрыкі, ды не абы-якой, а самой… Але любую гэта не цікавіць, яе адно цікавіць, калі ён вернецца і якіх прысмакаў прывязе. Прынамсі, так дзеўкі расчытваюць тыя мімічныя эцюды, якія адбываюцца наперадзе іхнага вэна, бо мовы дагэтуль не ведаюць. Вучылі-вучылі зраніцы, пакуль Масу чакалі, нават дырэктара агенцыі да колікаў давялі. А цяпер усё забыліся, хітрая такая мова, то з табой, то з кімсьці здраджвае. «Трэба будзе такі заняцца сур'ёзна, калі ўжо тут загразла», — чарговы раз дае сабе загад Агата, але думкі сплываюць ад вучобы да мадыгаванняў, ці выпадзе ёй хоць калі вярнуцца дадому. Мо разбіць якую вітрыну, каб яе дэпартавалі разам з пратэрмінаванай візай і ўсім рэпарцёрскім трыбухам?.. «Ці зробяць яны мне педыкюр», — прыкідвае Яначка і разглядае свае ладныя пальчыкі, якія сціпла выглядаюць з-за рамянёў сандаляў. А потым спрабуе згадаць кастынг для гэтай фабрыкі. Гэта важна, згадаць, якую яны халеру прыносілі мераць дзеля снэп-шотаў. Калі файныя рэчы, дык мо і праца будзе вясёлая, а мо і падораць чаго-небудзь, Яначцы заўжды дораць рэчы, вось напрыклад гэтыя акуляры Шанэль, ці гэтыя саколкі, што зараз на іх з Агаткай. Нават калі самі не здагадаюцца прапанаваць, можна заўжды ўхапіць аблюбаваную рэч і хваліць яе да тае пары, пакуль гаспадароў не пройме. Дык што ж там былі за рэчы? Не, не згадаць, так шмат кастынгаў было апошнім часам, усё ў памяці блытаецца.

— Спыні, калі ласка, тут, — далей шляхі Агаты і мінівэна разыходзяцца, фабрыка за горадам, рэдак-

цыя ў самым цэнтры, а метро адсюль усяго за некалькі прыпынкаў, можна дайсці. — Дзякуй, што дакінулі.

— Місі, падумай, там дождж будзе, — Маса, як заўжды, непакоіцца, мілы.

— Застааанься, ну застааанься, яны без цябе абыйдуцца, ты мне сама казала… — Яначка завяла катрынку з учорашняга вечара і паспела Агаце ўжо добра азыраць. — Паглядзіш, як ды што, можа, пра фабрыку гэную напішаш, а не, ну ці надакучыць там, дык я табе таксі выклічу, умэнт завязуць, ну застааанься, ну лапуня, ну красуня…

Агатка рашуча вызваляецца з абдымкаў, адсоўвае дзверы вэна — яны, як заўжды, слізгаюць вельмі лёгка. Хапае вандзелак, прапушчае машыну, выскоквае — і на яе абрынаецца сцяна дажджу. Як заўжды ў тропіках: толькі што былі сонца і задуха, аж вось вам, трымайце, дарунак нябёсаў. І рубца сухога не засталося. А гэтыя сабе рагочуць, аж машына ходырам ходзіць.

— Місі, сюдэю! — Маса захліпваецца і маша рукамі.

Каб табе махала абламалася, сурочыў, гад! Што паробіш, трэба лезці назад, пакуль аб'ектыў не замок, торбачка доўга гэткай залевы не вытрывае.

— Як добра, што я халат прыхапіла, зараз, — Яначка ўцягвае мокрую курыцу назад, загадвае Масу адвярнуцца і не паглядаць. — От зараз, ды не глядзіць ніхто, здымай — Маса, а ну адвярнуўся, каму сказала! — здымай, нельга ў мокрым сядзець, захаладаеш, унь ужо зуб зуба кліча, Маса, кандыцыянер ноў! Давай, і майткі таксама, зараз, у мяне дзесьці тут купальнік быў…

Канечне, дождж перастаў адразу, як толькі дзяўчаты зацягнулі халаціку пасак.

— Неее, — Яначка перахапіла Агацін позірк і хуценька прыбрала мокрыя рэчы ў торбу, дзе раней жыў халат. Мокрыя, брыдкія Агаціны шмоткі. Зусім рыззё. Што яна лахманы ўсялякія носіць, вечна ў яе якаясь — філя-зофІя. Трэба ёй яшчэ й спадніцу падарыць. — Усё, паедзеш з намі, на, тэлефануй у рэдакцыю.

Потым яны гадзіны з дзве ехалі чвэрць мілі да платнай шашы, паўгадзіны да самой фабрыкі, яшчэ паўгадзіны Маса перапрашаў, што заўняліся…

Супрацоўніцы фабрыкі ахвочыя паглядзець госцяў — з работай у руках высыпалі на леснічныя маршы, пальчыкам тыцкаюць ды смешачкі правяць. Хай сабе дызайнерка паперадзе йдзе ды парыквае, а ім што, ім свята. Так бы і шыбавалі ў фотапавільёны ўсёй грамадой, уверх, уніз, на грузавым ліфце, налева, направа, яшчэ направа… Не, самі мы адсюль не выйдзем, вырашыла Агата і кінула лічыць павароты. Фотапавільёны займалі два сумежныя паверхі — там ужо йшла праца, Марціна Грос з канкурэнтнай агенцыі ляжала на падлозе ў рассыпаных яблыках. Збоку яна нагадвала прыстрэленую качку, да якой збегліся галодныя сабакі — фатограф, стылісты, размаітыя асістэнты. Не, хутчэй нябожчыца і вакол паліцыянты, а цяпер галоўны следчы, дызайнерка, усіх адным зіркам паразганяла і схілілася да ахвяры.

— О-го, — прысвіснуў Маса, агледзеўшыся. — Місі, глядзі!

Дзяўчат запрашаць не трэба — як скінуць вокам, павільён поўны ўсемажлівых і немажлівых прадметаў. Але Яначцы не даюць нават крануць цацачнага труса. Ганчакі акаляюць свежую ахвяру, стылісты ўчапіліся за валасы, манікюрша за рукі, педзікюрша за ногі, візажыст ледзь прабіўся да твару, так што Яначкі і не бачна.

Агата з Масам выпраўляюцца на экскурсію. Яны мінаюць безліч столікаў, сталоў і сталішчаў, круглых, драўляных, металічных, этнічных, фарбаваных, двойчы рэпараваных, лакава-блішчастых і матавых-падрапаных, цыбатых і бязногіх, зробленых з дыназаўравага шкілету і з матора вэ-восем. На сталах стаяць штучныя і жывыя букеты. Шкляныя слёзы на тканым лісці — штучны букет змарыўся ад сваёй штучнасці й несмяротнасці і з зайздрасцю паглядае на жывога суседа. А той таксама на бок паглядае — шкадуе свой кароткі ды марна загублены

век, прагне вечнага жыцця, сумуе па далёкім лузе й тонях, на якія не вернецца аніводзін пялёстак…

«І вось так заўжды», — уздыхне Агатка і згадае, як яны з Яначкай спрабавалі абмяняцца валасьмі, бо кучаравыя бландынкі заўжды хочуць быць прамавалосымі брунэткамі і наадварот. І толькі рыжыя-караткастрыжыя заўжды самі пры сабе. Але до ўжо, загадаем сабе выкінуць усялякія бздуры з галавы. Лепей падзівімся на гэты вялізны кантрабас — Маса ці то ростам з ім мераецца, ці то ўлезці ўсярэдзіну спрабуе, бы кантрабас — гэткі човен, а струны — так, павуцінне наліплае.

— Куды ж ты, пабо! — дзеўка ледзь за вушы адцягвае яго ад інструмента, от жа, нават слоўца якоесь усплыло, ну ды лаянка заўжды лепей запамінаецца. Унь як гэты дылда выгаворвае «ёлупа», куды лепей, чымся іхныя з Яначкай імёны. Выходзіць «йіорупп», але пазнаць можна. — Хадзем лепш я табе сыграю.

На другім паверсе разлеглася вялізная чорная раяля, сытая пантэра, якая ашчэрылася на Агату ва ўсе зубы. Але ж варта было сунуць ёй руку ў пашчу, каб адразу пачаліся скаргі на здароўе дый адсутнасць партнёра. Некалькі клявішаў западала, струна на сі першай актавы парвалася і чапляла суседнія, так што пераход з першай актавы на другую быў падобны да сутаргавага ўсхліпу ўсёй квінты. Некалі аксамітны, мяркуючы па шыльдзіку, нават пародны і, пэўне ж, спакушальны голас гэтай пані цяпер гучаў так, быццам яна ўсе трыццаць гадоў за нялюбым мужам. Так што Агата крыху пабахала Баха, успеніла Шапэна ды кінула. Яшчэ Яначка заплачацца, што ёй галава ад такой музыкі баліць. Яна вунь і сапраўды нешта надзьмулася, вой жа і смешная ў гэтых трох спаднічках. Ну, мо ёй сычом глядзець фатограф загадаў, так і скача вакол яе з экспанометрам, так і бліскае ўспышкай, не, праўда, і без музыкі хапае, адпачні, старэнькая.

Далейшае бадзянне ды бяздзеянне прывяло нашых турыстаў да стосу парыкоў — Маса так глядзеўся ў залатых кудзерах, што Агата расчахліла аб'ектыў. Праўда,

літаральна праз хвіліну давялося яго скручваць назад і ставіць кітавы — тыя самыя кудзеры ператварылі Агату ў французскую каралеўскую балонку, і дзеля гэтага варта было спярша стагнаць ад смеху перад люстэркам, а потым тлумачыць Масу, на што ціснуць, бо трэба ж захаваць для вечнасці такую страшную прыгажосць. Ну а там абое разыграліся, перакідваліся ролямі мадэлі і фатографа, ды так захапіліся, што не заўважылі, як да іх падышла дызайнерка. Ну, яна так і гэтак ужо пэўны час сама бадзялася па павільёне, быццам шукала штосьці, але забылася — што. За ёю і ўся студыя падцягнулася глядзець, як тыя двое дурэюць. Ачомалася Агата тады, калі да звыклага чмока роднага затвора далучыўся яшчэ адзін — студыйны фатограф, аказваецца, таксама прыладзіўся побач з Масам! Дызайнерка ў нейкім парыве падляцела да Агаты, ускудлачыла на ёй парык, накінула на шыю гірлянду кветак і адышлася ў задуменні, быццам мастак, які паклаў на палатно ўдалы мазок і змяніў гэтым усю карціну.

Не паспела дзеўка распытаць Масу, чаго гэта яны, як апынулася на крэслах, і вось ужо чэшуць, мажуць, педыкюраць ды манікюраць, прытым усё аглушальна разам, якія ўжо тут роспыты.

— Маса, скажы ім, што я не мадэль! — Агата адбіваецца ад дзеўкі з пудрай і адчайна чапляецца за халат, з якога яе спрабуюць выцягнуць. — Яначка! Памажы!

Неўзабаве букер такі з'яўляецца побач і просіць прыкінуцца мадэляй, бо дызайнерка хоча ў гэтым вобразе менавіта яе, Агату, дык каб агенцыі грошы не губляць, хай місі паспрабуе, ну вось так сама, як яны толькі што рабілі з гэтымі парыкамі, а там разбяромся, калі добра пойдзе — дык і заробак неблагі, сто даляраў за гадзіну здымак… О, за сто даляраў місі, канечне, паспрабуе! За сто даляраў місі нават дазволіць завіць сабе валасы на дробную плойку, потым завязаць у два хвасты і схаваць пад нечым хусткападобным а-ля майткі на галаве, і нават дасць уздзябурыць на сябе тры спадніцы і чатыры

кофтачкі адна на адну, і нават стане туды, дзе наклеены зялёны крыжык, і нават зробіць ім, як просяць, смайл.

Спачатку было весела, але праз тры гадзіны Агата ўжо не думала так зняважліва аб працы мадэлі. Аж да млосці надакучыў фен, якім ёй дзьмулі ў твар — валасы ўсё адно не хацелі лётаць, затое вочы ахвотна пухлі, чырванелі і слязіліся, так што ўсё цяжэй было рэагаваць на дызайнерку, якая стаяла побач з фатографам і ўвесь час трымала пальчыкам кут вуснаў ды перад кожным кадрам прыгаворвала — смайл, смайл. Пасміхнуся, каб табе чэрці ў пекле пасміхаліся! Паскачу, каб табе на патэльні скакаці! Але ж трэба, трэба, і хай Яначка паглядзіць, як яна спраўляецца, не ўсё ж ёй адной прыгажуняй быць. Можа і яна, Агата, што сабе гэтая багацейка думае, што яна нейкі недачалавек ці што, от зараз зараблю і сама ёй саколку куплю ды падарую…

А Яначка плача за кантрабасам ля дальняга кута павільёна. Маса доўга не мог дабіцца ад яе чагось большага, чым пары кухталёў і пажаданняў, каб яго трасца ўзяла. Ён нават прыцягнуў ёй з другога паверха цацачнага труса і разыграў яму адцянне галавы. На жаль, нават жорсткае абыходжанне з цацкай Яначку ніяк не абыходзіла, таму хлопец рашыў скарыстаць сакрэтную зброю — у валізе між кампазітак на ўсялякі выпадак хавалася шакаладка. Вялікая, чорная, з разынкамі ды мігдалам, твая ўлюбёная, ну, бяры! Але дзеўка адпіхнула яго руку ды яшчэ горай завяла:

— Ы-ы-ы, ыдыёт! Мне нельга — я тлу-у-устая! Так, так яны мне сказалі, унь тыя твае, кляенты!

Для мадэлі няма страшнейшай абразы, тут нават дасведчаны Маса разгубіцца.

Дарога дадому быццам бы тая ж, што раніцай, — тая, ды не тая. Дзеўкі сядзяць па сваіх кутах, маўчаць сціхатою. Адна зморана і ўжо не шчаслівая — пабачыла, якая ў Яначкі бяда, дык нават сорамна за сваю колішнюю радасць зрабілася. Другая пакрыўджаная да самага нутра, быццам сяброўка наўмысна яе з-пад

камераў адпіхнула, у-у-у, змяюка, у давер уцёрлася, а гэта ж я сама яе ўгаварыла ехаць, пазабавіць хацела, парадаваць…

— Нічога ты не тлустая, — Агата нарэшце кідаецца прабіваць сцяну непрыязнага маўчання. — Яны проста самі не ведаюць, чаго хочуць. Ты ж бачыла ў іх на кампутары — яны ўжо чалавек дзесяць перабралі.

— Ай, маўчы ўжо лепей! — У Яначкі няма ахвоты не толькі гаварыць, а і слухаць гэтую здыхлю. — Хіба не бачна?

Яначка кладзе руку побач з Агацінай. Смуглая рука вылеплена гожа, ладна, і побач з ёй Агацін дрот глядзіцца страх якім дысгарманічным — локаць выпірае, праз бледную скуру ўсе жылкі бачна, не рука, а дапаможнік па анатоміі. І каму такое можа падабацца?

— Яначка, я табе сто разаў казала і вось сто першы кажу — ты вельмі прыгожая! А гэтая дызайнерка проста ненармальная. Яна мне прапаноўвала іхныя гэтыя спадніцы і ўсё майно, калі я буду з ёй гёрлфрэнд — далібог, яна ненармальная! Так, так, прапаноўвала, і не глядзі на мяне, ну, канечне, я не згаджуся… Ну, хочаш, угаворым Масу, зараз жа пазвонім ім ды скажам, што я не буду здымацца далей? Глядзі, я папрасіла ў іх для цябе таго труса, у яго, праўда, галава адвальваецца, але я падшыю…

Вось так пакрысе настае мір і спакой, і Агата яшчэ не ведае, што яе чакае замест чыпсаў і чарговага кіна ў ложку.

А Яначка ў акно глядзіць, маршрут прыкідвае і абдумвае. Дзверы ў бусіку адкрываюцца лёгка, нават надта лёгка. Маса неяк казаў, што трэба ўпор паставіць, на ўсялякі выпадак, а то яшчэ адкрыюцца самі на якім павароце. А там жа трафік, жах проста, самы сапраўдны забойца гэты вялікі горад. Агатка, не абапірайся так на дзверы! Вой, мушу цябе папярэдзіць, там паварот наперадзе, рэзкі!

Шчоўк. Ускрык. Візг тармазоў. Удаем жах. Супакойваем Масу.

Ах, місі, які страшны выпадак! Ах, місі, так шкада тваю сяброўку! Доўбень ты доўбень, Маса, трэба было ўпор паставіць. Але мы нікому не скажам, што ты вінаваты, праўда? Ну хто яе шукаць будзе, яна ж нікому не вядомая, нелегалка. Кладзі яе хутчэй і едзем, пакуль паліцыю не прынесла. Скажы таму чмыру, што ў больніцу, — і едзем хутчэй, пакуль яна мне тут усе апраткі сваімі мазгамі не запэцкала. Я ведаю добрую гару, там глыбокую нару. Не-не, там ніхто не ходзіць, толькі я на прабежкі выбіраюся. Ну, канечне, ведаю. Не бывае тут нікога, ужо месяц бегаю, прыглядаюся, нікога не страчаю. І пазвані любай, яна, напэўна, злуе. Давай купім ёй то-фу, тут на рагу вуліцы. М-м, якія смачныя.

Але больш нельга, я цяпер на дыеце.

## Алеся Башарымава

ты прагнеш верным быць? — прагні
свой хвост пад сонца ледзяное
і ноч пры ночы дзень пры дні
нясі між безданню й сцяной
а потым пакладзі ля ног
таго хто дзякуе адданым
і мае цэлы стос бліноў
вялікіх зорак са смятанай
==

балотнае цеста ткнуць яго рукі —
то й гнецца балота
я статкі шукаў я ўзышоў на гару — і
яго не было там
я статкі знайшоў і закляў у каменне
бо дзе ён пастух?
зямля ўздыхнула пры гэтакай змене
хто жыў ёй той стух
шурпатай расою жывіліся доўга
пад павадыром
як слухалі вы яго — чулі не тога
гара чула гром
а я чуў ягоныя крыкі свабоды
я чуў яго песні
пакуль вы смакталі скалу і ўсходы
быллё елі з плесняй
і вось я прыйшоў каб знайсці пры вас дзеда —
ці ў шчасце? ці важна?
паскіданы крокі, вятры з мяне здзеты
о статкі! я ваш
==

## Гнеў

Глухое прадонне падлогі —
над ім махаю мятлою,
матляю ілбом,
набрынялым, нібыта рогам,
адзінай упартай думкай — пусці на маю дарогу! —
але не йду напралом.

Гнілыя галовы гневу,
і чорны вугаль, і сонца
пад сінім павекам неба.
Шапчу, уплятаючы ў крыкі
ціхіх стогнаў лагчыны,
маленняў хрыбты —
мне хіба шлях не адкрыты,
як гневу чужога ірты?
Вісяць запэцканыя лычы,
намаляваныя пэндзлем мятлы,
здольным сягнуць долу —
і не вырвацца з рук.
На далонях маіх мазалі каляровыя,
я па скронях размазваю іх,
абціраючы пот,
абціраючы грукат
у скронях
гарачых.
Я крычу сабе — зараз! —
і стомаю ўздрыгваю — потым! —
гэты рух — паралюш,
і раз’юшаных твараў рып
скоча ў цела маё
па прагалах майго існавання:
я глытаю паветра —
і крыкаў асіплых лам’ё
апускаецца ў цела маё —
і знікае ў катле яго нетраў.

Я матляю мятлой па-над нечым сатлелым,
чорным вугалем, попелам, попелам белым,
над сатлелым святлом,
я ганяю паветра —
сіні холад кладзецца на лоб,
як на вока — павека…
==

ветах мружыцца вокам старэчым
разбяры на ім рэжуць зморшчыны
іншым разам стары закрэкча
высцілаючы мора мошчамі…
пыл на хвалях дыбіцца — але не хвалюйся

марна яго змятае ў кучы — і марна
ямы выкопвае ў моры вецер
мінай іх не агінаючы іх
лашчы бакамі сваёй судзіны
ядваб юрлівай вады
тузае хай віскуцень твой ветразь
ветразь прымае гульню

шторм слепіць хмарамі ветах і
таму ты як выслепак верыш гатовы
мільёны стыхіяў перамацаць кіем
гатовы нечакана датыкнуцца да выспы — і
здрыгануцца:
ейны маяк працуе
==

вось такая беларусь
багнай плясь лясамі хрусь
птушкай чыўк завеяй шорк
сонца мяккае як шоўк!
==

на падворку карова целіцца
вось
з’явілалася
проста
лёгка
расчараванне ў заспаным целцы
і ў вачах адсутнасць клёку
вось
цяля з вачыма куляецца
цёмнае
кволае
неба
ціша
мама на саламяным пляцы
стомлена
пысай у пыле піша
піша — я нарадзіла дзетку
роднага
цёмнага
дзетку
сына
бог мне суддзя мой
двор мой сведка:
сынам сагрэтая — не астыну

# Ян Бжэхва

## Падарожжы доктара Клякса (фрагменты)

*Раздзел першы. Казканія*

Адбывалася гэта ў тыя часы, калі атрамант быў яшчэ зусім-зусім белым, а крэйда — чорнай. Праўда-праўда, мае даражэнькія, крэйда тады была яшчэ абсалютна чорнай. Уявіце сабе, які з гэтага быў клопат і неўразуменне. Белым атрамантам пісалі на белай паперы, а чорнай крэйдай — на чорнай дошцы. Так-так, мае даражэнькія, вы ж самі разумееце, што гэткіх літар зусім не было відаць. Калі вучань пісаў сачыненне, настаўнік ніколі не ведаў, ёсць там што-небудзь на старонках ці нічога няма.

Вучні крэмзалі ўсялякія глупствы на паперы ці на дошцы, але ніхто не мог гэта не тое каб праверыць, але нават заўважыць. Лісты, напісаныя гэткім чынам, былі цалкам нечытэльныя, і таму ў тыя часы іх мала хто пісаў. Чыноўнікі спісвалі цэлыя кнігі, але дарэмна было спрабаваць знайсці ў іх сляды літар або лічбаў. Яны проста былі нябачныя. Калі б не было старадаўняга звычаю весці кнігі, напэўна, кінулі б гэтую марудную і бессэнсоўную працу.

Людзі распісваліся на розных паперах і дакументах, хоць дакладна ведалі, што ніхто, нават яны самі, ніколі не расчытаюць гэтых подпісаў і нават самыя мудрагелістыя загагуліны згінуць намарна. Але людзі спрадвеку дужа любілі распісвацца, таму яны не зважалі на тое, што белага атраманту не бачна на белай паперы. Так-так, мае даражэнькія, тыя, хто распісваўся, зусім не пераймаўся гэтай непрыемнасцю. І невядома, колькі б гэта яшчэ працягвалася, калі б не Арсень Клякс.

Аднойчы гэты славуты мудрэц, дзівак і падарожнік, вучань вялікага доктара Пай-Хі-Во, заснавальнік слыннай Акадэміі, зусім выпадкова высадзіўся ў адным з партоў Байканскага паўвострава.

Пасля доўгай дарогі доктар Клякс дабраўся да Казканіі — вялізнай і багатай краіны на заходнім узбярэжжы паўвыспы. Прыязнасць і гасціннасць казконаў, іхняя любоў да казак, адвага мужчын і прыгажосць казконскіх дзяўчат заахвоцілі доктара Клякса бліжэй пазнаёміцца з мовай, жыццём і звычаямі гэтага народа.

Таму ён пасяліўся ў сталіцы гэтай дзяржавы, Легендарску, ля падножжа гары Казкун. Бальшыня жыхароў Легендарска вырошчвала кветкі, таму горад патанаў у зеляніне і выглядаў, быццам чароўны сад. Паркі, аранжарэі і клумбы былі ўсыпаныя невядомымі і незвычайнымі краскамі.

Паветра ў Легендарску, набрынялае водарам ружаў, ляўконій, язміну і рэзеды, адурманьвала жыхароў і, відаць, гэтым тлумачыцца іх незвычайная любоў складаць казкі. У прысадах і парках казачнікі ў маляўнічых строях, упрыгожаныя кветкамі, распавядалі такія незвычайныя казкі, што ніхто са слухачоў не змог бы паўтарыць ніводнай з іх.

Казконы размаўлялі на мове, якая была вельмі падобная да іншых, з адной толькі розніцай, што яны не ведалі і не ўжывалі галоснай «у». Так-так, мае даражэнькія, літара «у» была ім зусім невядомая. Таму «мур» па-казконску гучаў «мр», «куля» па-казконску была «кля», «муха» — «мха», «курыца» — «крыца» і г. д. Доктар Клякс вельмі хутка зразумеў гэтую асаблівасць мовы казконаў і ўжо праз некалькі дзён дасканала ёю валодаў.

Казконы жылі ў невялікіх аднапавярховых дамках, абсаджаных дрэвамі і кветкамі. Іх фарбы і пахі вабілі безліч матылькоў, якія рабілі навакольны свет яшчэ больш стракатым. Птушыныя спевы гучалі там з самага ранку да позняга вечара амаль цэлы год, бо восень і зіма

былі ў Казканіі вельмі кароткія. Усяго толькі адзін месяц, пяць дзён і дзве гадзіны.

Раз на дваццаць гадоў адбываўся Усеказконскі з’езд казачнікаў, якія выбіралі з сваіх шэрагаў Вялікага Бая. Ім быў — як лёгка здагадацца — аўтар найпрыгажэйшай казкі. Удзельнікі з’езду разбівалі намёты ў даліне цюльпанаў, бо іхні водар надзвычай тонкі і не так адурманьвае, як пах іншых кветак. Казачнікі выступалі па чарзе на вежы пасярод даліны і распавядалі па адной сваёй казцы. Яны мусілі расказваць вельмі гучна, каб кожны мог пачуць, таму для ўмацавання галасавых звязак яны харчаваліся толькі мёдам і тутавым сокам. Усе слухалі вельмі ўважліва, бо для казконаў не было нічога прыгажэйшага і цікавейшага на свеце, чым казкі.

Так-так, мае даражэнькія, казкі былі для іх самым важным. Паколькі ў Казканіі было многа, вельмі многа казачнікаў, то казкі баялі з ранку да вечара два, а часам нават тры месяцы запар. Але такі з’езд адбываўся раз на дваццаць гадоў, таму слухачы былі надзвычай цярплівыя, ніхто не парушаў спакою, рэдка нават хто чхаў, хіба што калі ніяк не мог стрымацца.

Кожны слухач атрымліваў маленькі шарык з слановай косткі, які аддаваў аўтару найпрыгажэйшай, на яго думку, казкі. Хто збіраў найбольш такіх шарыкаў — рабіўся Вялікім Баем. Яму ўручалі вялізнае залатое пяро, якое сімвалізавала найвышэйшую ўладу ў Казканіі, і ўрачыста, пад музыку, праводзілі ў мармуровы палац на вяршыні гары Казкун. Там Вялікі Бай сядаў у фатэль, па-майстэрску выразаны з духмянага сандалавага дрэва, і з той хвілі на дваццаць гадоў рабіўся валадаром казконскай дзяржавы і кіраваў ёй разам з сямю іншымі знакамітымі казачнікамі — баймістрамі, або дарадцамі.

Народ шанаваў Вялікага Бая і заўсёды слухаўся яго.

Самыя знакамітыя садоўнікі прысылалі яму рэдкія віды кветак і самы духмяны мёд са сваіх борцяў. На газонах перад палацам маладыя казконскія танцоркі, нібы матылькі, паказвалі яркія пантамімы; найлепшыя музыкі

пад шатамі дрэваў пераймалі на сваіх інструментах з адзінай срэбнай струной — цымбаялах — шум ветру, звон струменьчыка, лопат птушыных крылаў, шапаценне лістоты і пчаліны гуд. Кожны намагаўся, наколькі зможа, аздобіць, упрыгожыць і палепшыць жыццё Вялікага Бая, каб натхніць яго на новыя казкі.

Але казкі — найвялікшае багацце казконскага народа — паміралі не запісанымі, не пераказанымі не толькі іншым народам, але нават і нашчадкам ва ўласнай краіне. Ніхто не мог утрымаць у памяці ўсё новыя і новыя казкі, а запісаць іх на паперы было немагчыма, бо атрамант быў белым. Так-так, мае даражэнькія, у той час не было яшчэ чорнага атраманту.

Адзін казконскі вучоны пасля доўгіх гадоў працы вынайшаў спосаб завязваць вузельчыкі, якія адпавядалі асобным літарам і словам.

Тады казачнікі пачалі з дапамогай гэтай складанай сістэмы пераносіць свае творы на клубкі нітак, а адмыслова навучаныя дзяўчаты, прапускаючы вузельчыкі праз пальцы, расчытвалі іх. Неўзабаве з’явіліся шматлікія бібліятэкі, дзе на паліцах ляжалі клубкі нітак з рознымі, па-майстэрску завязанымі вузельчыкамі, падобна, як сёння захоўваюцца кнігі. Тысячы казконскіх казак захоўваліся гэткім чынам, навука вязаць вузельчыкі ўсё больш і больш дасканалілася.

Аднак здарылася бяда, якой не маглі прадбачыць нават наймудрэйшыя людзі ў Казканіі. Аднойчы, напрыканцы лета, раптам з’явілася кузурка, нашмат меншая за камара, якую звалі вузлаед і якая харчавалася выключна вузельчыкамі. Яна размнажалася з неверагоднай хуткасцю. Ужо праз некалькі гадзін хмары дробненькіх, амаль нябачных шкоднікаў праніклі ва ўсе бібліятэкі, і не паспелі казконы нічога зрабіць — як вузлаеды пажэрлі ўсе вузельчыкі, скарб казконскага пісьменства.

Калі спалоханы Вялікі Бай трапіў разам з баймістрамі ў Нацыянальную бібліятэку ў Легендарску, ён заспеў там

толькі горы пылу і кучы дробненькіх мошак, апухлых ад пяражору.

Вялікі Бай сеў на свой трон, глыбока задумаўся і цэлы тыдзень не займаўся дзяржаўнымі справамі, а баймістры дарэмна намагаліся прыгадаць казкі свайго валадара, пажэртыя вузлаедамі. Потым зачыніліся ўсе вокны ў мармуровым палацы, і доўгія месяцы цягнулася нацыянальная жалоба.

Аднак калі казконы ачомаліся ад сваёй страшэннай згрызоты і вярнуліся да звычайных спраў, вучоныя пачалі шукаць іншы спосаб запісваць творы казачнікаў.

Але новыя спробы таксама не ўдаліся. Ніхто не змог вынайсці спосаб працягнуць жыццё казак даўжэй за жыццё матылькоў, што лётаюць па-над кветнікамі Легендарска.

Адбывалася гэта за часамі Вялікага Бая, якога звалі Апалінар Маўчн, што трэба чытаць як Апалінар Маўчун. Ён праславіўся як найвялікшы казачнік у гісторыі Казканіі, і народ шанаваў яго больш за ўсіх яго папярэднікаў.

Гэта быў пяцідзесяцігадовы таўстун на кароценькіх ножках, якія не даставалі да зямлі, калі ён сядзеў на сваім троне з сандалавага дрэва. Ён быў надзвычай лагодны і ласкавы. У яго быў круглы безбароды твар і маленькія вясёлыя вочкі, лысую галоўку акаляў вянок пасівелых валасоў, а нос нагадваў чырвоную радыску, якая засталася на талерцы толькі таму, што была апошняй.

Раз на тыдзень Вялікі Бай паказваўся на балконе мармуровага палаца і баяў сваю новую казку натоўпу, што сабраўся ў ягоным садзе. Але гэтыя казкі былі занадта чарадзейнымі, каб хто-небудзь змог іх запомніць. Так-так, мае даражэнькія, гэта былі вельмі дзіўныя і незвычайныя казкі. Таму народ Казканіі не мог змірыцца з тым, што казкі паміраюць адразу, як народзяцца, і пра іх не даведаюцца жыхары іншых гарадоў і краін.

Аднойчы, акурат тады, у мармуровым палацы на гары Казкун з'явіўся нейкі чужаземец і заявіў, што хоча пагутарыць з Вялікім Баем.

Калі яго правялі ў залу, дзе на сандалавым троне сядзеў Вялікі Бай Апалінар Маўчун, боўтаючы ў паветры кароткімі ножкамі, незнаёмец схіліўся перад таленавітым каралём і сказаў:

— Я шмат падарожнічаў, шмат бачыў, а ведаю я яшчэ болей. Я не раз чуў казкі Вашай Казачнай Вялікасці і разам з казконскім народам засмучаны, што няма спосабу запісаць іх, каб натхнёная творчасць Вашай Казачнай Мосці стала даступнай жыхарам усяго свету. Аднак, можа, я магу прапанаваць свае паслугі, і калі Ваша Казачная Вялікасць палічыць іх дарэчнымі, я паспрабую, не пазней як за год, дастаць фарбавальнік, які зробіць атрамант чорным.

Вялікі Бай шырока расплюшчыў вочы і раскрыў рот, а незнаёмец працягваў далей:

— Я ведаю дарогі, што вядуць да радовішчаў бясцэнных складнікаў чорнай і белай фарбы, і — самае позняе праз год — я змагу вярнуцца ў Казканію, нагружаны імі настолькі, што іх будзе цалкам дастаткова для ўсіх казачнікаў гэтай краіны.

Вялікі Бай пачырванеў ад вялікага ўзрушэння, а потым паблядне́ў. Урэшце ён узяў сябе ў рукі і спытаў:

— Чаго ты жадаеш узамен, слаўны чужаземец?

Але чужаземец паблажліва ўсміхнуўся і прамовіў з уласцівай яму годнасцю:

— Каштоўныя ўзнагароды даюць скнарам і тулягам. Мы, вучоныя, прагнем толькі дабра для людзей. Няхай Ваша Казачная Мосць дасць мне адзін са сваіх караблёў, дасведчанага капітана і трыццаць чалавек экіпажа. Гэта ўсё. Астатнім займуцца мае веды, досвед і кемлівасць. Я веру, што змагу стрымаць абяцанне.

Вялікі Бай яшчэ раз пачырванеў і пабляднеў ад узрушэння, злез са свайго разьбянага фатэля, абняў незнаёмца і шалёна закрычаў:

— Чорны атрамант!.. Сапраўдны чорны атрамант!.. Высакародны чужаземец, скажы мне сваё імя, каб я мог расказаць пра цябе свайму народу.

Незнаёмец абцягнуў сурдут, прычасаў чупрыну ўсёй пяцярнёй, злёгку адкашляўся і прамовіў:

— З гэтага я мусіў пачаць. Мяне завуць Арсень Клякс, доктар філасофіі, хіміі і медыцыны, вучань і асістэнт славутага доктара Пай-Хі-Во, прафесар матэматыкі і астраноміі ва ўніверсітэце ў Саламанцы.

Пасля гэтых словаў ён выпрастаўся і стаў з годна паднятай галавой, пагладжваючы левай рукой бараду.

— Сёння я яшчэ аддам усе неабходныя загады і даручэнні, а заўтра асабіста праверу ў порце, як яны выконваюцца, — сказаў Вялікі Бай са слязьмі на вачах.

Назаўтра а першай гадзіне дня ад легендарскага порта адчаліў новенькі, цудоўна абсталяваны трохмачтавы карабель «Апалінар Маўчн».

У порце стаяў Вялікі Бай і трайным салютам з пятнаццаці марціраў развітваўся з доктарам Кляксам, які выпраўляўся ў незвычайнае, поўнае прыгодаў падарожжа.

Так-так, мае даражэнькія, паглядзіце — тая чорная, ужо ледзь бачная ўдалечы постаць на версе каралеўскай мачты — гэта Арсень Клякс.

Пазычым знакамітаму вандроўніку спадарожнага ветру і спакойнага мора.

*[У другім раздзеле («Марская ціша») карабель доктара Клякса з прыгодамі вандруе па моры і раптам правальваецца ў расколіну ў марскім дне.]*

## Раздзел трэці. Абэцыя

Карабель спыніўся на агромністай плошчы, залітай зеленаватым святлом. Па абодвух баках бясконца доўгім шэрагам стаялі іншыя караблі, разнастайныя па форме і велічыні — ад магутных ваенных галер з гарматамі і мітральезамі да невялікіх рыбацкіх чаўноў. З бакоў іх падпіралі бурштынавыя бэлькі, і выпадковаму гледа-

чу магло падацца, што ён на выставе альбо на кірмашы караблёў.

Уверсе, вельмі высока, было відаць столь, выкладзеную ракавінкамі, паміж якімі на аднолькавай адлегласці былі круглыя адтуліны, закрытыя бурштынавымі вечкамі.

Плошча, межы якой знікалі ў далёкім паўзмроку, была пакрытая малахітавымі плітамі, а пасярэдзіне яе, у вялізным басейне, весела плёскаліся атраманцыцы.

Вакол карабля круціліся фігуры, не падобныя ні да людзей, ні да жывёлы, хутчэй яны нагадвалі сваёй формай вялікіх павукоў. Іх круглыя тулавы, якія трымаліся на шасці руках з чалавечымі далонямі, надзвычай спрытна рухаліся ў хуткім танцы. З кожнага тулава тырчала маленькая, вяртлявая галава з адным чуйным круглым вокам. З абодвух бакоў верхняй часткі тулава было дзве адтуліны, што нагадвалі раты. Адзін рот вымаўляў гук «а», другі — «б». Уважліва прыслухаўшыся, можна было заўважыць, што разнастайныя спалучэнні гэтых двух гукаў, вымаўленых папераменна то адным, то другім ротам, былі мовай дзіўных падводных істот.

Ужо праз некалькі хвілін доктар Клякс навучыўся адрозніваць асобныя словы, як напрыклад: аа, ба, абаб, бааб, баабаб, бабааб, абабаб, баба, абба, ббаа і гэтак далей, а праз гадзіну мог вольна размаўляць з абэкамі, бо менавіта так праз асаблівасці іхняй мовы і называліся жыхары гэтай краіны.

Абэкі ад прыроды былі вельмі мілыя і ветлівыя да чужынцаў. З размоў з імі доктар Клякс даведаўся шмат цікавых падрабязнасцяў з іхняга жыцця. У некаторых была сёмая рука са сталёвымі шпорамі — іх асабліва паважалі астатнія абэкі. Гэтым абэкам дазвалялася раз на дзень выходзіць праз бурштынавыя вечкі ў мора на ловы. Яны ўмелі плаваць хутчэй за жыхароў марскіх глыбіняў, а ўзброеная сёмая рука служыла ім і для атакі, і для абароны. З выправаў і паляванняў яны вярталіся нагружаныя здабычай, якую справядліва дзялілі паміж усімі жыхарамі Абэцыі. Абэкі харчаваліся рыбай, меду-

замі, рознымі ракападобнымі, а пілі чорнае малако атраманціц ці каралавы адвар. Гатавалі яны на бурштынавых плітках або печках, якія награваліся токам электрычных рыб.

— А адкуль тут у вас паветра? — спытаў доктар Клякс, дыхаючы на поўныя грудзі.

— Наша краіна, — адказаў адзін з абэкаў, — злучаецца доўгім каналам з востравам Вынаходцаў. Адтуль трапляе неабходнае нам паветра. Жыхары выспы ведаюць дарогу і часта прыходзяць да абэкаў, але ніводзін з нас не наважыўся выйсці на паверхню зямлі, бо святло сонца ці месяца адразу ж нас заб'е.

Пасля кароткай размовы абэкі, спрытна пераскокваючы з рукі на руку, адвялі гасцей у залу, дзе былі раскладзены матрацы з марской травы, а на бурштынавых століках стаяў аздоблены посуд з кітовай косці, ракавінак і малахіту.

Абэчанкі, прыбраныя караламі і перлінамі, у вязаных з водарасцяў фартухах, прынеслі падносы са стравамі і напоямі ў бурштынавых збаночках. Пры гэтым яны карысталіся толькі дзвюма рукамі, а на астатніх чатырох, на якіх яны хадзілі, былі ці то пальчаткі, ці то чаравічкі са скуры акулы.

Госці былі галодныя і з апетытам узяліся за ежу. Найбольш ім спадабаліся медузы, запечаныя ў соўсе з марскіх лілеяў, тушаныя кітовыя плаўнікі і салата з васьмінога.

Памятаючы засцярогу доктара Клякса, ніхто не дакрануўся да прапанаваных напояў, хоць усіх мучыла смага. І хоць каралавае віно вабіла сваёй чырванню, капітан адправіў кухарчукоў на карабель па ваду і садавіну.

Мараходы ажыўлена перамаўляліся жэстамі з абэкамі, што было досыць проста, асабліва для гаспадароў, у якіх было па трыццаць пальцаў.

Часам яны прасілі доктара Клякса нешта перакласці. Выявілася, што гэта менавіта інжынеры-абэкі разам з жыхарамі выспы Вынаходцаў з дапамогай складаных тэхнічных прыстасаванняў сканструявалі гіганцкую

расколіну ў марскім дне, каб скрадаць караблі, якія праплываюць тут.

— Мы не хочам зрабіць людзям нічога кепскага, — сказаў адзін з абэкаў, усміхаючыся адначасова абодвума ратамі, — нас цікавіць толькі тое, каб пераняць у маракоў чалавечыя веды і розум. Дзякуючы ім мы навучыліся рамёствам, спазналі гісторыю падводнага свету, даведаліся пра сонца і зоркі, пра жудасныя войны, якія вядуць паміж сабой людзі, пра дзіўных жывёлін і зямныя расліны. Аднак больш за ўсё мы ўдзячныя людзям за тое, што яны навучылі нас здабываць цяпло з электрычных рыб.

— І людзі ніколі вас не крыўдзілі? — спытаў доктар Клякс.

— А навошта ім нас крыўдзіць, — адказаў абэк. — Яны добра ведаюць, што могуць выбрацца адсюль толькі з нашай дапамогай, а мы нікога не хочам тут утрымліваць супраць яго волі.

Прынеслі новыя стравы, але ўжо ніхто не мог іх есці. Толькі кухар Тэлесфор, вядомы ласун, наклаў сабе вялікую порцыю печанага трытона, начыненага салам марскога вожыка, і з апетытам яе ўтаптаў. Страва была вострая, і ад яе хацелася піць. Тэлесфор прагна схапіў са стала ракавіну з каралавым віном і кульнуў яе нагбом. Тады ён адчуў пякучы смак на вуснах і не паспеў яшчэ ўсвядоміць, якое глупства ён здзейсніў, як праваліўся ў глыбокі сон. Абэкі не хавалі сваёй радасці, а доктар Клякс замаркоціўся і сказаў таварышам па падарожжы:

— Мы страцілі Тэлесфора. Цяпер ён застанецца тут назаўсёды.

Насамрэч, калі праз нейкі час падарожнікі вырашылі пакінуць Абэцыю, Тэлесфор заявіў, што застанецца ў гэтай краіне, бо адчувае сябе абэкам і з гэтага часу не можа глядзець на сонца ці месяц. Зрэшты, як абудзіўся, ён пачаў цудоўна размаўляць па-абэцку і надзіва спрытна бегаць на карачках.

Гэтак уздзейнічала каралавае віно.

Пасля абеду доктар Клякс з непрыхаванай цікаўнасцю пачаў пытацца пра атраманціц, якія былі сапраўднай мэтай іхняга падарожжа. Ён жадаў праверыць колер і густату іхняга малака, каб пераканацца, ці мае яно ўласцівасці чорнага атраманту.

Наш вучоны быў надзвычай жвавы. Ён бегаў вакол басейна і, свістаючы на два галасы, заваблівaў атраманціц, якія хутка з ім асвоіліся, цягнуліся да ягоных рук, апушчаных у ваду, і лашчыліся да яго, як каты. Пры гэтым ад іх сыходзілі гукі, што нагадвалі рыпенне шафы.

Доктар Клякс радаваўся, як дзіцё. Ён зняў з галавы капялюш і раз-пораз напаўняў яго чорнай вадкасцю, любуючыся яе фарбай і бляскам. Урэшце з поўным капелюшом ён адправіўся на палубу карабля, а неўзабаве вярнуўся, размахваючы здалёк аркушам паперы, на якім віднеліся надпісы, рысункі і кляксы.

Сумневаў не было. Малако атраманціц было цудоўна прыдатным для пісьма. Таму доктар Клякс загадаў экіпажу апаражніць усе бочкі, што былі на караблі, і напоўніць іх малаком атраманціц.

Абэкі з цікаўнасцю пазіралі на незразумелыя для іх дзеянні доктара Клякса і ветліва ўсміхаліся абодвума ратамі.

— Паглядзіце! — крычаў доктар Клякс. — Што за гушчыня! З адной шклянкі вадкасці можна атрымаць сто флаконаў цудоўнага атраманту! Вялікі Бай зможа ўвекапомніць свае цудоўныя казкі. Кожны зможа пісаць чорным атрамантам. Вам будзе ўдзячны цэлы народ. Няхай жывуць атраманціцы!

Казконы скакалі ад радасці. Капітан, не губляючы часу, узяўся пісаць новую казку. Напоўніўшы атрамаціцавым малаком дванаццаць бочак, маракі заспявалі казконскі нацыянальны гімн, які пачынаецца са словаў: «Няхай жыве Вялікі Бай і баіць казкі нам няхай».

Толькі кухар Тэлесфор сядзеў на ўзбоччы і сам сабе казаў па-абэцку:

— Я застануся тут назаўсёды. Я хачу быць абэкам да канца жыцця. Я буду піць каралавае віно і чорнае малако. Я буду прыдумляць для абэкаў новыя стравы з марскіх зорак і водарасцяў. Вось так. Тра-ля-ля!

Доктар Клякс глядзеў на яго з глыбокім спачуваннем. Ён ведаў дзеянне каралавага віна, а значыць разумеў, што для Тэлесфора ўжо няма паратунку. І насамрэч, Тэлесфор на вачах пачаў курчыцца і, усім на подзіў, да вечара пераўвасобіўся ў сапраўднага абэка.

— Мы страцілі кухара, — сказаў доктар Клякс, — але затое прыдбалі атрамант, і цяпер мы можам плыць ў Казканію.

Затым ён звярнуўся да абэкаў:

— Дарагія сябры! Мы ведаем вашу велікадушнасць і перакананыя, што вы дазволіце нам зайсці на карабель і вярнуцца да сябе на радзіму. Дзякуем вам за гасціннасць і за цудоўнае малако атраманціц. Развітваюся з вамі ад свайго імя і ад імя маіх таварышаў па падарожжы. Абаба, абааб, аббаб!

Гэты апошні вокліч на абэцкай мове абазначаў: «Жыве Абэцыя!»

— Ваш лёс вырашыць каралева Аба, — абвесціў адзін з абэкаў. — Нам загадалі правесці вас да яе. Хадзем. Трэба ўшанаваць яе волю.

Доктар Клякс палічыў гэта залішнім марнаваннем часу, аднак добрае выхаванне, а яшчэ больш цікаўнасць даследчыка, узялі верх над спехам. Таму ўсе адправіліся за сваім правадыром.

Вандроўка праз пакручасты калідор доўжылася ўжо добрую гадзіну, як раптам паказаўся яго канец і падарожнікі спыніліся, як укапаныя, зачараваныя нечаканым цудоўным відовішчам. Яны апынуліся на возеры, супрацьлеглы бок якога патанаў за даляглядам. Вада ў возеры была блакітная і празрыстая, як шкло.

На ўзбярэжжы вакол возера на аднолькавай адлегласці ўздымаліся вычасаныя з бурштыну высокія пахавальні каралёў Абэцыі, а на кожнай з іх стаяла жар-

птушка і свяцілася полымем сваіх пёраў да самага далягляду. Ля падножжа пахавальняў, пасярод пунсовых каралавых кустоў залатыя і срэбныя павукі працавіта плялі сваю нітку, закрываючы дасяг да водаў возера.

Далей ад берагу на вадаплаўнай выспе жыла каралева Аба. Яна адпачывала на вялікай ракавінцы, якую пастаянна рухалі сямёра сямірукіх абэкаў.

Выспа падплыла да берага павітацца з незнаёмымі, і каралева паднялася на ракавінцы. Убачыўшы яе, нават доктар Клякс не змог стрымаць здзіўлення. Замест чаканага шасцірукага і аднавокага стварэння мараходы ўбачылі прыгожую маладую жанчыну, якая прыветна падняла руку і ветла ўсміхнулася. Абэкі на знак пашаны ўкленчылі, казконы схілілі галовы, а доктар Клякс, не губляючы здольнасці мысліць, выступіў з прамовай на абэцкай мове, выказваючы ў ёй пашану і захапленне прыўкраснай каралевай.

У адказ на словы доктара Клякса каралева Аба, свабодна валодаючы яго роднай мовай, сказала:

— Я не належу да дынастыі вялікіх каралёў Абэцыі. Сем гадоў таму я пачала валадарыць па просьбе гэтага народа. Я была жонкай караля Палямона, уладара вясёлай і сонечнай Палямоніі. Аднойчы, падчас падарожжа, наш карабель, як і ваш, уваліўся ў расколіну. Выпіўшы каралавага віна, мой муж, а таксама ўсе нашыя прыдворныя пераўтварыліся ў сямірукіх абэкаў і мусілі назаўсёды застацца ў гэтай краіне. Адна толькі я, хоць і піла чарадзейны напой разам з іншымі, не трапіла пад яго ўздзеянне і захавала чалавечае аблічча. Папярэдні кароль абэкаў, Бааб-Ба, так уразіўся гэтым, што зачыніўся ў прызначанай для яго пахавальні, а народ абвесціў мяне каралевай. Я прыняла прапанаваную мне пасаду, бо не хацела пакідаць свайго мужа. Я ўзяла абэцкае імя Аба і пасялілася на каралеўскай выспе ў атачэнні палямонцаў, пераўвасобленых у абэкаў. Я змірылася са сваім лёсам і палюбіла сваіх падданых. Калі вы дасце мне абяцанне, што пра гэтую гісторыю не даведа-

юцца ў Палямоніі, я дазволю вам пакінуць Абэцыю і адправіцца на радзіму.

— Абяцаем! — урачыста выгукнуў доктар Клякс.

— Абяцаем! — паўтарылі за ім казконы, а капітан, не ў стане апанаваць узрушанасці, зачараваны красой каралевы, пабег у кірунку выспы. Аднак ён заблытаўся ў павуцінні і толькі з дапамогай абэкаў вылузаўся з сеткі.

— Нікому не дазволена набліжацца да мяне. Гэта закон у Абэцыі! — грозна сказала каралева Аба, а пасля дадала: — А цяпер мае вартаўнікі правядуць вас да Кітовай Мяжы і перададуць праваднікам з выспы Вынаходцаў.

— А наш карабель?! — закрычаў доктар Клякс.

— Карабель? — здзівілася каралева. — Карабель застанецца тут, бо мы яшчэ не ведаем спосабу падняць карабель на паверхню мора. Але я вас не пакрыўджу. Вось жменя перлінаў, каштоўнасць якіх нашмат перавышае панесеную вамі страту.

Гаворачы гэта, яна кінула да ног доктара Клякса мяшэчак з рыбіных лусак, напоўнены перлінамі.

Не паспеў яшчэ доктар Клякс паглядзець, што ў ім, і падзякаваць каралеве Абе за шчодрасць, як прыгожая каралева Абэцыі сказала загадным тонам:

— Прыём скончаны!

У тую ж самую хвіліну ўсе жар-птушкі адначасова пагаслі і навокал запанавала цемра. Толькі каралеўская выспа, адплываючы ад берагу, блішчала блакітным святлом.

Абэкі акружылі падарожнікаў і па шырокім калідоры, выкладзеным пліткамі з бурштыну, правялі іх у кірунку Кітовай Мяжы.

Грукат бочак з атраманціцавай вадкасцю разлятаўся на ўсе бакі магутным рэхам так, што было цяжка размаўляць. Таму і казконы, і абэкі ішлі моўчкі, занятыя сваімі думкамі.

Але самым задуменным быў доктар Клякс.

Ён нервова торгаў сябе за брыво і раз-пораз выкрыкваў абэцкія словы, зусім не звязаныя паміж сабой:

— Абба — ababa — аба — бба!

Абэкі, каб не перашкаджаць яго мудраванням, тупацелі трохі наводдаль і шэптам перамаўляліся паміж сабой. Калі праз пару гадзін крокам ля выйсця з калідора замаячыла чырвонае святло, адзін абэк выбег наперад, жэстам затрымаў казконаў і сказаў:

— За гэтым мурам заканчваецца нашае ўладаранне. Праз імгненне вы пакінеце Абэцыю. Ад імя майго народа развітваюся з вамі і зычу далейшых удалых і цікавых прыгодаў. Для нас было вялікім шчасцем прыняць у сябе такога знакамітага вучонага як доктар Клякс, слава пра якога дайшла нават да нас. Дзякуючы яму вы атрымалі гонар паглядзець на вялікую каралеву Абу. Ніхто з чужаземцаў дагэтуль не бачыў яе. Вы першыя даведаліся пра яе таямніцу. Але вы павінны сцерці яе са сваёй памяці, бо інакш вы заблукаеце і ўжо ніколі не трапіце на радзіму. А цяпер хадзем за мной.

Пасля гэтых словаў абэк падышоў да муру, якім заканчваўся калідор, і караскаючыся на дзвюх руках, чатырма астатнімі адначасова пакруціў бурштынавыя дыскі, асвечаныя чырвоным святлом.

*[Чацвёрты раздзел («На шляху да вострава Вынаходцаў») расказвае пра далейшае падарожжа доктара Клякса ў пошуках атраманту. Экіпаж трапляе на выспу, дзе робяцца ўсе вядомыя чалавецтву вынаходніцтвы. Самі жыхары называюць сваю выспу Патэнтоніяй.]*

## Раздзел пяты. Патэнтонія

Не паспелі яшчэ казконы добра разгледзець станцыю і пасажыраў, як столь і сцены Сталёвай Стралы нечакана падняліся ўгару, а ніжняя платформа, разам з фатэлямі і ўсім іншым змесцівам тарпеды, рушыла наперад. Пачуліся гукі сігналаў, пліты рассунуліся, ад-

крываючы шырокі тунель, які паглынуў падарожных. Але праз хвіліну платформа выплыла вонкі з вакзала. Яна шпарка рухалася па вуліцы, на якой таксама было што паглядзець. Высока над дарогай на сталёвых кладках і скляпеннях уздымаліся дамы патэнтонцаў, а ўнізе аўтаматычна рухаліся восем ходнікаў, кожны з рознай хуткасцю. Унутраныя ходнікі былі прызначаныя для руху пехам, вонкавыя, нашмат шырэйшыя, служылі для транспарту. Платформа казконаў перамяшчалася на правым краі дарогі, побач рухаліся і жыхары гэтага механізаванага горада, і кожны з іх стаяў на вялікім ступаку сваёй адзінай нагі. Суседні ходнік рухаўся амаль з такой самай хуткасцю, як і платформа казконаў, таму яны маглі са сваіх фатэляў разглядаць тутэйшых.

Патэнтонцы вылучаліся толькі тым, што ў іх была адна нага, аднак яны былі вышэйшымі за казконаў на тры галавы. Таксама ў іх былі надзвычай доўгія і дужа рухавыя насы, нібыта нюх быў самым галоўным пачуццём гэтых істот. Мужчыны ў іх зусім лысыя, а ў жанчын на палове галавы раслі рудыя валасы, заплеценыя ў тры кароткія коскі. Дзеці вонкава нічым не адрозніваліся ад дарослых.

Патэнтонцы апраналіся проста і аднолькава: скураная куртка, доўгія ваўняныя панчохі і вялікія рознакаляровыя палярыны. Агромністыя ступакі былі абутыя ў гамашы на двайных спружынавых падэшвах, дзякуючы якім можна было скакаць у вышыню на некалькі метраў з лёгкасцю konікаў і рухацца з хуткасцю чатырыста міляў за гадзіну.

Ходнікі ніколі не спыняліся, таму, каб сысці з іх, патэнтонцы адным спрытным скокам траплялі на пероны побач з дарогай. Такім жа самым чынам яны саскоквалі з перонаў на ходнікі.

З левага боку дарогі бег самы хуткі ходнік, які нёс на сабе розныя машыны ў форме цыгар, шароў і пляскатых гуркоў. У гэтых машын не было колаў, толькі доўгія, шырокія полазы, падобныя да лыжаў.

Шарападобныя машыны ўяўлялі сабой двухмясцовыя свідралёты з тонкага, лёгкага металу, яны былі празрыстыя, як шкло. Іх назва ўтварылася ад мачты ў форме свярдзёлка, якая тырчала пасярэдзіне машыны, атамны рухавік круціў яе з хуткасцю сто тысяч абаротаў за секунду. А ў неба свідралёты падымалі пляскатыя надрэзы на свярдзёлку, які быў замест прапелера. Калі правільна кіраваць рэгулятарам, машына можа нерухома вісець у паветры або лятаць, як самалёт. Хмары свідралётаў, якія кружляюць у небе, знізу нагадвалі мыльныя бурбалкі. Іншы, наземна-водны, транспарт перамяшчаўся з дапамогай шруба, які быў прымацаваны спераду, на самым носе. Такія машыны маглі рухацца па любой паверхні, бо прымацаваныя знізу полазы былі ім замест чыгуначных рэек. Развіваючы вялізную хуткасць, шрубусы пераскоквалі праз няроўнасці, ледзь-ледзь дакранаючыся полазамі да зямлі.

Казконы разглядалі ўсё, шырока раскрыўшы рот, і раз-пораз здзіўлена ўскрыквалі, а доктар Клякс распытваў мінакоў-патэнтонцаў пра ўсялякія падрабязнасці, што датычыліся канструкцыі свідралётаў і шрубусаў. Размаўлялі яны па-казконску, а калі гаварыць пра мясцовую мову, то яе амаль нідзе не было чуваць, бо паміж сабой патэнтонцы зносіліся зусім іншым чынам. У іх на насах былі акуляры, шкельцы якіх былі падобныя да маленькіх экранаў. На іх адлюстроўваліся думкі патэнтонцаў у выглядзе рухомых карцінак, таму абменьвацца словамі не было патрэбы. Доктар Клякс абяцаў таварышам па падарожжы, што ён дастане для іх гэткія акуляры.

— Але вы павінны памятаць, — дадаў доктар Клякс, — што патэнтонцы не маюць думак, якія хочуць схаваць ад іншых. Я баюся, што многія з вас лепш адмовяцца ад цудоўных акуляраў, чым выдадуць свае думкі. Мы вылеплены з іншай гліны, і не ўсе тутэйшыя вынаходніцтвы будуць для нас прыдатнымі.

На рухомых ходніках з'яўляліся ўсё новыя і новыя постаці патэнтонскіх аднаногіх волатаў. Некаторыя

з іх, каб паскорыцца, скакалі на сваіх спружыністых падэшвах па ходзе руху і знікалі, як блохі. Дзеці ў дарозе сядзелі на складных зэдліках. Свідралёты падымаліся і прызямляліся, каб заправіцца палівам з усталяваных уздоўж ходніка бакаў. Платформа казконаў рухалася наперад, без перашкодаў мінаючы дзіўныя металічныя рыштаванні. Немагчыма было ўбачыць уласна гарадское жыццё, бо жылыя дамы і вуліцы месціліся дужа высока. Урэшце яны даехалі. Платформа паднялася ўверх. Яе адначасова схапілі чатыры сталёвыя клямары і адправілі на верх вялізнага будынка. Казконы апынуліся ля ўваходу на плошчу, дзе сабраўся натоўп патэнтонцаў прывітаць доктара Клякса.

Плошча была забрукаваная пліткамі з матавага шкла. З такіх самых плітак былі збудаваныя шматпавярховыя дамы, якія звужаліся ўверсе і заканчваліся абаротнымі вежамі. Да вежаў былі прымацаваныя ўвагнутыя шчыты, якія паглыналі сонечныя прамяні і ператваралі іх у цяпло, прыдатнае не толькі для ацяплення памяшканняў, але і для падагрэву паветра звонку. Дзякуючы механізму сонечных шчытоў і сістэме электрычных халадзільняў, патэнтонцы ўмелі падтрымліваць аднолькавую тэмпературу ў сваіх гарадах у любую паравіну года. Гэта было важна хаця б з таго гледзішча, што ў патэнтонцаў былі вельмі вялікія насы, і таму нават пры невялічкім ветрыку яны захворвалі на насмарк і так гучна чхалі, нібыта гралі на трубах.

Плошчу пераразала шырокая вуліца, шматлікія адгалінаванні якой былі бачныя здалёк. Па-над плошчай ра***і***ліся свідралёты, прычэпленыя да балконаў дамоў, як паветраныя шарыкі. Жыхары горада высыпалі на балконы, трымаючы каля вуснаў маленькія каўчукавыя рэпрадуктары. Сабраныя на плошчы патэнтонцы былі ва ўрачыстых спічастых каптурах, на канцы якіх былі маленькія антэнкі, падобныя да гузікаў. Адзін з іх, з яшчэ даўжэйшым носам, падышоў да доктара Клякса, хутчэй нават дробненька падскакаў, нізка схіліўся

і, па патэнтонскім звычаі, пацалаваў яго ў вуха. Гэта азначала вялікую пашану, на што доктар Клякс адказаў гэтак жа, але пры тым мусіў моцна падскочыць, бо патэнтонец быў вышэйшым за яго на добрыя чатыры галавы. Прывітанне з астатнімі патэнтонцамі было менш урачыстым і абмежавалася ўзаемным цяганнем за вушы. Петраку дужа спадабаўся гэты звычай, бо ён упершыню ў жыцці мог торгаць кагосьці за вушы так, як калісьці гэта з ім рабілі маракі. Праўда, тады гэта не было знакам пашаны.

Пасля прывітальнай часткі, падчас якой натоўп сыграў на насах «Марш Вынаходцаў», патэнтонец прыклаў да вуснаў сетку з шклянога дроту, памерам з кішэнны гадзіннік, і распачаў прамову. Гэтая сетка была незвычайным вынаходніцтвам. Яна ператварала патэнтонскую мову ў любую іншую, якую хочаш. Гэткім чынам патэнтонскую прамову казконы пачулі па-казконску.

— Шаноўны госць, — сказаў моўца, звяртаючыся да доктара Клякса. — Адважныя падарожнікі! Скажу напачатку, што я — Галоўны Механік, у вашай краіне гэта адпавядае пасадзе Вялікага Бая. Тры гады таму, калі Дом Патэнтаў засведчыў, што я зрабіў больш за ўсіх вынаходніцтваў, я атрымаў уладу з рук майго папярэдніка, Патэнтонія XXVIII, і цяпер я займаю сваю пасаду пад іменем Патэнтонія XXIX. Калі нехта з маіх землякоў апярэдзіць мяне па колькасці вынаходніцтваў, я перадам яму ўладу як свайму наступніку. Гэта закон нашай краіны.

Пасля гэтых словаў сабраныя на плошчы патэнтонцы закрычалі хорам:

— Элла мэлла Патэнтоній адарэлла! — што павінна было значыць па-патэнтонску: «Няхай жыве Патэнтоній XXIX!»

Моўца ж працягваў далей:

— Гэта вялікі гонар для мяне — прывітаць у нашай краіне такога вучонага як Арсень Клякс, якому я абавязаны ідэямі многіх нашых вынаходніцтваў. Гэтыя

ідэі не маглі быць увасобленыя ў жыццё на радзіме доктара Клякса, бо там не было патрэбных матэрыялаў і тэхнічных прыладаў, але схемы і апісанні, якія сведчылі пра геній гэтага вучонага, трапілі да нас і дазволілі нам рэалізаваць шмат важных вынаходніцтваў на карысць нашай дзяржавы.

У гэтым месцы Галоўны Механік нізка схіліўся, яшчэ раз пацалаваў доктара Клякса ў вуха і працягнуў далей:

— Дазволь мне, шаноўны госцю, назваць тыя вынаходніцтвы, якімі мы абавязаны табе. Найперш — павелічальная помпа. Дзякуючы ёй мы змаглі павялічыць наш рост на траціну ад сапраўднага. Я хацеў бы прадэманстраваць тут гэтае вынаходніцтва.

Гаворачы гэта, патэнтонец дастаў з кішэні палярыны помпу, якая нагадвала звычайную маслёнку, прыклаў ейны канец да вуха доктара Клякса і некалькі разоў націснуў на донца. У тую ж хвіліну доктар Клякс пачаў расці на вачах і праз некалькі секунд быў ростам з патэнтонцаў. Гэта напраўду ўражвала. Казконы з зайздрасцю пазіралі на доктара Клякса, які зрабіўся амаль што волатам. Яны тут жа акружылі Галоўнага Механіка і нахабна падставілі вушы, дамагаючыся таго ж самага. Толькі сляпы стырнавы стаяў наводдаль, бо не дужа цяміў, у чым там справа.

Галоўны Механік зразумеў, што стырнавы невідушчы, і спрытным рухам па-над галовамі маракоў надзеў яму на нос пенснэ з прызматычнымі шкельцамі. Цяжка апісаць радасць стырнавога, які раптам пачаў бачыць і дужа здзіўлена азіраўся навокал. Яшчэ больш ён уразіўся, калі патэнтонец прыклаў да ягонага вуха помпачку і павялічыў яго. Яго шчасце было проста бязмежным. А астатніх казконаў Галоўны Механік мякка, але ўпэўнена адсунуў рукой, пасля чаго зноў паднёс да вуснаў сетку і працягваў перарваную прамову:

— Наступнае адкрыццё, заснаванае на ідэі доктара Клякса, — гэта ключык, які адчыняе ўсе замкі, затым

куфэрачак для агеньчыкаў свечак, самаграйныя масты, супрацьнасмаркавыя аўтаматы і шмат усялякіх іншых рэчаў. Адзінае, што мы не змаглі здзейсніць, — гэта вытворчасць пігулак для росту валасоў, бо ў нас няма адпаведных вітамінных фарбавальнікаў. Нашая хімічная прамысловасць, на жаль, не паспявае за тэхнічным праграэсам, які ўжо не мае ад нас ніякіх таямніц.

— Пігулкі для росту валасоў? Калі ласка! — усклікнуў доктар Клякс і дастаў з кішэні футарал, з якім ніколі не расставаўся. — Калі ласка! У мяне іх шмат.

Гаворачы гэта, ён адкрыў футарал і пачаставаў пігулкамі патэнтонцаў, што стаялі паблізу. Праз хвілю футарал апусцеў. А ў тых, хто паспеў пачаставацца пігулкамі доктара Клякса, адразу паказаліся з-пад каптуроў буйныя кудзеры. Затым хор сыграў на насах кантату, напісаную ў гонар доктара Клякса.

Але прамова патэнтонца, відавочна, яшчэ не скончылася, бо ён даў знак сцішыцца, а тады працягваў:

— У нашай краіне вы не знойдзеце гульняў ці забаваў, бо ўвесь свой час мы прысвячаем працы. Затое вы ўбачыце цікавыя рэчы, а некаторыя з іх нават зможаце забраць з сабой у родную Казканію. Вы — нашыя госці, аднак ваша гасцяванне не можа быць даўжэйшым за адны содні, бо нам нельга адрывацца ад нашых машын. Гэта закон нашай краіны.

«Баяцца, што падгледзім за імі», — падумаў Пятрок.

Як толькі Галоўны Механік скончыў прамову, усе ягоныя падуладныя прыклалі да вуснаў сеткі і хорам закрычалі:

— Няхай жыве Патэнтоній XXIX! Няхай жыве Арсень Клякс!

Пасля гэтага яны яшчэ раз сыгралі на насах развітальную кантату. Калі сцішыліся апошнія ноты песні, слова ўзяў доктар Клякс і каротка падзякаваў за сардэчны прыём. Ён гаварыў па-казконску, але патэнтонцы прыклалі да вушэй каўчуковыя рэпрадуктары, якія адразу перакладалі яго словы на патэнтонскую мову.

*[У наступных раздзелах вядзецца пра далейшыя прыгоды ў Патэнтоніі, аб бітве з саранчой, якая адбылася ля архіпелага Граматычных выспаў (адтуль на ўвесь свет разыходзяцца законы і правілы напісання словаў); вандроўнікі траплялі на выспу Металафагаў (якія з'елі металічныя свідралёты казконаў), у Макаронію (жыхары якой не ядуць нічога, апрача супу з макаронай); адтуль яны ў бочцы падарожнічалі да Аптэкарскага мыса, дзе доктар Клякс сустрэў свайго даўняга вучня Асташа, які і раней рабіў шмат непрыемнасцяў свайму настаўніку. У дарозе доктар Клякс пастаянна губляў некага з экіпажа, ажно ўрэшце застаўся адзін.]*

## *Раздзел трынаццаты. Нібыцыя*

Краіну, у якой высадзіўся наш вучоны, насялялі чалавечыя істоты, але ўпершыню здарылася такое, каб доктар Клякс крочыў незаўважаным, не выклікаючы цікавасці ані сваёй незвычайнай фігурай, ані дзіўнай вопраткай.

Жыхары горада хадзілі парамі і блазнавата ўсміхаліся. Яны былі ў каляровых хітонах — такіх бліскучых і лёгкіх, што іхнія целы здаваліся празрыстымі. Твары гэтых дзіўных істотаў таксама мелі нейкія няўлоўныя рысы і здавалася, нібыта на іх не было нічога, апрача ўсмешкі.

Дамы стаялі ўздоўж вуліц, але складаліся выключна з вокнаў і балконаў.

На кветніках расло мноства стракатых красак. Доктар Клякс сарваў адну з іх і адразу ж заўважыў, што кветка страціла колер і пах, яе нават складана было адчуць дотыкам пальцаў.

Істоты з усмешкамі рухаліся па вуліцах. Некаторыя працавалі. Але тое, што яны рабілі, — было няўлоўным для вока. Яны забівалі нябачныя цвікі, пілавалі дрэвы,

хаця ані пілы, ані дрэва не было відаць. У пэўны момант вуліцу перасек нейкі вершнік, разнёсся нават стукат капытоў, але каня не было бачна.

Доктар Клякс доўга з цікаўнасцю назіраў за ўсім гэтым. Урэшце ён страціў цярплівасць і падышоў да аднаго з мінакоў.

— Скажыце, калі ласка, дзе я? Як называецца гэтая краіна?

Мінак акінуў яго блазнаватай усмешкай і паварушыў вуснамі, нібыта нешта казаў, але ягоны голас быў бязгучны, а сказы складаліся з бясформенных, як подых, словаў.

Доктар Клякс, які ніколі не губляў клёку, спрытна вышчыкнуў адну валасіну са сваёй барады і абкруціў яе вакол вуха. Недачутыя гукі ўдараліся ў волас, як у антэну, і такім чынам узмоцненыя, даляталі да барабанных перапонак доктара Клякса.

Цяпер размова пайшла складней, а аповед мінака стаўся зразумелым.

— Шаноўны чужаземец, — казаў ён з блазнаватай усмешкай. — Нашая краіна называецца Нібыцыя. Ты, відаць, заўважыў, што ў нас усё нібыта адбываецца. Мы паходзім з казкі, якой яшчэ ніхто не напісаў. Таму ў нас нібыта ёсць нашыя дамы, вуліцы і кветкі. Мы таксама нібыта ёсць. Насамрэч нас яшчэ не існуе. Толькі калісьці ў будучыні нейкі казачнік прыдумае нас. Мы заўжды ўсміхаемся, бо нашыя праблемы і турботы таксама толькі нібыта ёсць. Мы не ведаем ані сапраўднага суму, ані сапраўднай радасці. Мы не адчуваем сапраўднага болю. Нас можна драпаць, калоць, шчыкаць, а мы будзем толькі ўсміхацца. Такая ў нас Нібыцыя і такія мы нібыты. Усё толькі нібыта.

— Выбачаюся, — перапыніў яго доктар Клякс, які ўжо даўно быў галодны. — А як вы ясце?

— Вельмі проста, — адказаў нібыт і даў нейкі знак жанчыне, што праходзіла міма. Яна зайшла ў дом і неўзабаве вярнулася з талеркай, на якой дыміўся апе-

тытны біфштэкс, абкладзены смажанымі бульбінкамі і гароднінай.

— Біфштэкс з паляндвіцы — гэта нашая ўлюбёная страва, — працягваў нібыт. — Частуйся, шаноўны чужаземец.

Доктар Клякс ахвоча ўзяўся за ежу, ён з'еў усё, што было на талерцы, але ў страўніку заставалася пуста. Яму здавалася, што ён праглынуў паветра, і толькі на вуснах застаўся смак цудоўнай ежы. Нібыта-бефштэкс не меў у сабе нічога, апрача смаку. Гэта яшчэ больш раздражніла голад доктара Клякса, але ён узяў сябе ў рукі і ўдаў, нібы наеўся.

Раптам удалечыні ён заўважыў іншую жанчыну, якая несла пукатую бутлю, поўную нейкай чорнай вадкасці.

— Што нясе гэтая жанчына? — закрычаў ён, не ў стане апанаваць сваёй ўзрушанасці. — Прашу цябе, скажы, што яна нясе?

— Эх, ну гэта проста атрамант, — адказаў нібыт. — Няўжо цябе цікавіць атрамант, шаноўны чужаземец?

Доктар Клякс стралой кінуўся па-над галовамі мінакоў, выхапіў з рук жанчыны бутлю і апусціў палец у чорную вадкасць. На пальцы не засталося ані следу атраманту. Тады доктар Клякс нахіліў бутэльку і выліў крыху сабе на руку. Рука засталася чыстай і сухой.

— Халера яго бяры, гэткі атрамант! — зароў доктар Клякс і грымнуў бутлю аб зямлю. Атрамант распырскаўся ва ўсе бакі, але слядоў не было ні на зямлі, ні на вопратцы мінакоў. Нават пабітае шкло ў бутэльцы выпарылася і знікла.

Нібыт падышоў да доктара Клякса.

— Ты забыўся, што знаходзішся ў Нібыцыі, — сказаў ён з блазнаватай усмешкай. — Бо гэта таксама нібыта-атрамант.

Вялікі вучоны маўчаў. Вакол парамі хадзілі мінакі, не звяртаючы на яго ўвагі. Яны нават не заўважылі ні ягонага выбуху гневу, ні прыкрага выпадку з атрамантам. Усе блазнавата ўсміхаліся, нібыта хацелі сказаць:

— Тут жа ўсё толькі нібыта.

Калі праз нейкі час доктар Клякс ачомаўся, знаёмы нібыт ужо сышоў, а хутчэй — распусціўся ў натоўпе. Зрэшты, і натоўп распускаўся ў блакітным тумане прыцемкаў, і толькі дзе-нідзе яшчэ мільгалі блазнаватыя ўсмешкі.

Доктар Клякс шпаркім крокам рушыў наперад, бо прагнуў хутчэй пакінуць гэтую няісную краіну. Ён павярнуў управа, але выявілася, што ідзе ўлева. А калі надумаў ісці ўлева, апынулася, што звярнуў управа. Ён блукаў па вуліцах, якія былі ні паралельныя, ні перпендыкулярныя. Ён кружыў па плошчах, што віселі ў паветры, як масты, раз-пораз вяртаўся на тое ж самае месца, з якога распачаў вандроўку, але знаёмыя вуліцы кожны раз выглядалі па-іншаму.

Барада доктара Клякса неспакойна варушылася, памыляючыся з кірункам. У прыцемках дзе-нідзе рухаліся цені нябачных постацяў. Лямпы, запаленыя ў вокнах, паблісквалі, але святла ад іх не было.

Доктар Клякс усё хутчэйшым крокам перабягаў завілістыя вуліцы, мінаў таямнічыя пераходы, прабіраўся ў аркі няісных дамоў і не мог знайсці выйсця з гэтага дзіўнага горада. Ён стомлена соп, але не губляў надзеі, што ўрэшце яму ўдасца трапіць у якую-небудзь сапраўдную краіну.

Неяк, калі ён у глыбокім задуменні стаяў на адной назе, з суседняга завулку выбег сабака, які насамрэч не быў сабакам — усяго толькі абрысы сабакі. Ён нагадваў ці то пудзеля, ці то таксу, але ў той жа час мог быць і шпіцам, хаця хвост у яго быў кароткі, як у фокстэр’ера.

Сабака падышоў да доктара Клякса, нейкі час абнюхваў яго з усіх бакоў, а пасля, прыязна віхляючы хвастом, пачаў церціся аб яго ногі. Наш вучоны сказаў некалькі словаў па-сабачы і нават прыязна гаўкнуў, як гэта звычайна робяць дварнякі, калі сустрэнуць якога-небудзь незнаёмца.

Сабака, які насамрэч не быў сабакам, двойчы бязгучна гаўкнуў.

Было зразумела, што сабачы характар не дазваляе яму быць абыякавым да чалавека. Ён радасна падскокваў, адбягаў і вяртаўся, прынюхваўся, віхляў хвосцікам і ўсяляк спрабаваў паказаць сваё задавальненне. Гэты нібыцкі сабака, які толькі нібы існаваў, відавочна, меў сапраўднае сабачае сэрца, бо лашчыўся да доктара Клякса, паказваючы гэтым сваю прывязанасць і вернасць, якой не было каму падарыць.

Доктар Клякс прысеў, дазваляючы лізнуць сябе ў твар, хаця і не адчуваў, як сабака яго ліжа. Ён гладзіў сабаку па галаве, толькі здагадваючыся, што дакранаецца да мяккай поўсці і вільготнага носа.

Пасля ўзаемных сардэчных прывітанняў нібыцкі сабака, які толькі нібыта быў сабакам, даў зразумець доктару Кляксу, каб той ішоў за ім. Дарога вяла праз лабірынт вулак, то ў адзін бок, то ў другі, з гары і пад гару, туды і сюды.

Доктар Клякс даверліва крочыў за сваім праваднікам, ажно ўрэшце апынуўся ў старым, закінутым парку. Аднак дзіўныя расліны і рэдкія віды дрэваў здаваліся зусім сапраўднымі. Прадзіраючыся скрозь буйныя нетры, наш вучоны радасна апякаў сабе рукі аб крапіву і разумеў, што пакінуў ужо межы Нібыцыі і зноў вярнуўся ў сапраўдны свет. Тады ж ён заўважыў, што яго чатырохногі праваднік знік. Толькі ўдалечыні было чуваць, як шумеў вецер, які нагадваў жаласнае сабачае гаўканне.

— Бывай, сабачка, — сумна прашаптаў доктар Клякс, узгадаўшы свайго пудзеля, якога страціў два гады таму. Ён нават быў падумаў, што гэта цень яго вернага сабакі прыбег з таго свету, каб правесці свайго былога гаспадара з Нібыцыі.

У парку два шпакі вялі паміж сабой гутарку, якая зацікавіла доктара Кляксa:

— Пазнаеш гэтага барадача? — спытаў адзін.

— Пазнаю, — адказаў другі. — Памятаю, як ён год таму сядаў на карабель, каб прывезці атрамант.

— Тра-тра-трамант! — закрычала сарока і паляцела да высокага муру, вежачкі якога вымалёўваліся ўдалечыні.

«Там будзе выйсце», — падумаў доктар Клякс і прыспешыў крок, чапляючыся барадой за кусты барбарысу і глогу.

І сапраўды, у муры, які цягнуўся ўздоўж парку, была безліч брамак з жалезнымі ліштвамі. На кожнай брамцы вісела струхлелая таблічка з заржавелым надпісам.

Доктар Клякс, напружыўшы зрок, узяўся чытаць надпісы. На іх былі знаёмыя яму геаграфічныя назвы. Некаторыя з іх ён прамаўляў голасна і выразна:

**КАЗКАНІЯ**
**АБЭЦЫЯ**
**ПАТЭНТОНІЯ**
**ГРАМАТЫЧНЫЯ ВЫСПЫ**
**КРАІНА МЕТАЛАФАГАЎ**
**МАКАРОНІЯ**
**АПТЭКАРСКІ МЫС**

«Усё гэта ўжо засталося ў мінулым», — падумаў ён і хутка пачаў пераглядаць бяздонныя кішэні сваіх нагавіцаў.

— Вось ён! — весела ўскрыкнуў доктар Клякс, дастаючы ўніверсальны срэбны ключык.

Ён падбег да брамкі з надпісам «Казканія». Ключык пасаваў. Іржавы замок заскрыгатаў, рыпнулі завесы, пасыпалася тынкоўка, і брамка падалася. Доктар Клякс з усяе моцы пхнуў яе. Перад яго вачыма ўзнік знаёмы горад, а пасярэдзіне — высокая гара Казкун.

Доктар Клякс з палёгкай уздыхнуў, зачыніў за сабой брамку і рушыў да мармуровых сходаў. Пераскокваючы праз некалькі прыступак, ён забег на самы пік гары і спыніўся ля брамы палаца Вялікага Бая. З тэрасы адкрываўся від на расквечаны Легендарск. З далечыні даносіўся спеў казконскіх дзяўчат і гукі цымбаялаў.

Але доктар Клякс нічога не бачыў і не чуў. Ён увайшоў у палац і мінуў дваццаць сем залаў, у якіх засядалі баймістры і іншыя дзяржаўныя саноўнікі. Аднак ён нікога не заўважаў і не адказваў на прывітанні. Ягоны твар быў надзвычай напяты, а ў галаве з'яўляліся чорныя думкі, якія пераліваліся ў сэрца, пранікалі ў кроў і напаўнялі ўсю істоту.

У Чорнай зале ён нерухома стаў, сіламоц стрымаў дыханне і ўжыў знакамітую методыку доктара Пай-Хі-Во, якая называецца «Спіральны заварот пупка». Дзякуючы гэтаму складанаму практыкаванню ён цалкам перамяніўся ўнутрана і адначасова пераўтварыўся вонкава. Такое можна рабіць толькі ў скрайніх выпадках.

Так-так, мае даражэнькія! Гэты вялікі чалавек быў здольны да вялікай самаахвярнасці, асабліва калі ў гульню ўступалі гонар і пачуццё абавязку.

Дык вось, калі доктар Клякс урэшце трапіў у апошнюю залу і ўбачыў люстэрка на супрацьлеглым баку, падышоў да яго, стаў на адной назе і паглядзеў на свой адбітак.

Адлюстраваннем была пукатая бутля з чорнай вадкасцю, заткнутая крышталёвым коркам у выглядзе галавы. Гэтая галава была як дзве кроплі вады падобнай да галавы доктара Клякса. Праз яе пранеслася толькі адна думка:

«Але ж я выканаў абяцанне! Мяне ніхто не зможа назваць Асташом Бурбалкай!»

Іншыя думкі былі ўжо лішнія, бо акурат у гэты момант Вялікі Бай пацягнуўся да бутэлькі, дастаў корак, апусціў залатое пяро ў атрамант і з вялікім стараннем пачаў каліграфічна выводзіць на прыгожай веленевай паперы назву сваёй новай казкі:

**ПАДАРОЖЖЫ ДОКТАРА…**

Аднак ён не скончыў, бо з пяра ўпала вялізная чорная клякса і расплылася на паперы.

Трэба было ўзяць наступны аркуш і пачаць наноў.

*Пераклала з польскай Алена Пятровіч*

# Рэй Брэдберы

## Найвышэйшая асалода

Двое мужчынаў сядзелі побач, моўчкі пахістваючыся ў такт колам электрычкі, што рухалася скрозь марознае снежаньскае сутонне, раз-пораз спыняючыся на станцыях. Калі дванаццаты прыпынак застаўся ззаду, старэйшы з мужчынаў выгукнуў: «Ідыёт! Ну ідыёт!»

— Што? — малодшы адарваў вочы ад «Таймс».

Старэйшы змрочна заківаў.

— Ты не бачыў ёлупня, што памкнуўся, спатыкаючыся, за паненкай з водарам «Шанэль»?

— Ах, за ёй? — Маладзён не ведаў, ці ўсміхацца яму, ці хмурыцца. — Я і сам аднойчы сігануў быў за ёй.

— І я… гадоў пяць таму, — хмыкнуў стары і заплюшчыў вочы.

Маладзён паглядзеў на старога як на сябра па няшчасці.

— І з табой адбылося тое самае, калі ты дайшоў да краю платформы?

— Бадай што так. А як было з табой?

— Я быў за дзесяць крокаў ад яе, калі да платформы падруліў ейны муж з плоймай дзяцей! Хлоп! Дзверы зачыніліся. Толькі і пабачыў у заднім шкле аўтамабіля ейную чэшырскую ўсмешку. Прачакаў з паўгадзіны, прамерз да касцей, пакуль прыйшла наступная электрычка. Далібог, гэта было мне навукай.

— Ды якая там навука, — суха запярэчыў стары. — Дурныя самцы! Усе мужыкі без вынятку. Трапечамся ў інстынктах, як тыя жабы паддоследныя: толькі ткні — затрымціць.

— Мой дзед заўсёды казаў: «Мужык топча як певень, а мазгоў — як у курыцы».

— Мудры ў цябе дзед. Але ты мне скажы, што ты думаеш пра яе цяпер?

— Пра яе? О, гэтая кабета любіць трымаць у трымценні. Яе, мусіць, цешыць думка, што спакуслівая гульня яе вачэй прымушае вар'яцець увесь вагон электрычкі. Для яе гэта найвышэйшая асалода, ці ж не так? Муж, дзеці, прывабная вопратка і касметыка — вось сакрэт поспеху, у якім яна запэўніваецца па пяць разоў на тыдзень у электрычцы. А калі шчыра, то і няма на што глядзець. Проста вельмі прыемна пахне.

— Лухта, — сказаў стары. — Папросту яна жанчына. Жанчыны ёсць жанчыны. А ўсе мужыкі — казлы. Калі гэта ўсвядоміш, тады ўтаймуеш уласную пажаду. Калі ж не, то не будзеш мець спакою гадоў да сямідзесяці, а то і болей. Між іншым, самакантроль напраўду неабходны ў падобных слізкіх сітуацыях. Але нават прыхільнікі гэтай непазбежнай, фундаментальнай ісціны часам не ў стане захаваць раўнавагу. Калі запытаць любога мужчыну, ці шчаслівы ён, то ён абавязкова падумае, што ты маеш на ўвазе, ці задаволены ён сваім сэксуальным жыццём. Здаволенасць — рай для мужыка. Я ведаў толькі аднаго, хто дасягнуў найвышэйшай асалоды, калі ўжо казаць тваімі словамі.

— Няўжо ж, — здзівіўся маладзён. Ягоныя вочы заіскрыліся. — Цікава.

— Ну, час, здаецца, яшчэ ёсць. Гэты хлопец — сапраўдны шчаслівчык, самы легкадумны распуснік, якіх я толькі бачыў. Цэлая калекцыя жонак і каханак, так бы мовіць, у асартыменце. І аніякіх згрызотаў сумлення, бяссонных начэй, скаргаў, пагрозаў і слёз.

— Неверагодна! — здзівіўся маладзён. — Нельга есці пампушкі і не таўсцець!

— А ён еў, есць і будзе есці! І аніякіх слядоў разгайданасці пасля ўсяночнай гайданкі на хвалях жарсці. Паспяховы бізнэсмэн. Апартаменты ў элітным раёне Нью-Ёрка, на паважнай вышыні ад гарадскога тлуму, да таго ж, уласны маёнтак у Бэкінгэме, дзе

ён па выходных пасе сваіх козачак. Шчаслівы фермер! Я сустрэў яго ўпершыню летась у ягонай нью-ёркскай кватэры, адразу пасля ягонага вяселля. На абедзе была ягоная жонка — шыкоўная жанчына: беласнежныя рукі, сакавітыя вусны, а цела — пульхная глеба — толькі каня запрагай. Не жанчына, а рог дастатку, кадушка спелых яблыкаў узімку! І шчасьлівы ўладальнік не мог стрымацца, каб не пахлопаць яе па клубах, калі яна праходзіла міма. Адыходзячы апоўначы, я спыніў сваю руку на шляху да кумпячка гэтай дароднай цёлачкі. Едучы ў ліфце ўніз, я адчуў п'янкі жар недзе ўсярэдзіне — і зарагатаў.

— Ну ў цябе і стыль, — вымавіў спадарожнік, цяжка дыхаючы.

— Кручуся ў рэкламным бізнэсе, — адказаў апавядальнік. — Але слухай далей. Я сустрэў яго зноў (назавем яго Сміт) пару тыдняў таму. Цалкам выпадкова на вечарынцы, куды мяне запрасіў адзін сябар. Калі я прыехаў у Бэкінгэм, аказалася, што вечарынка адбывалася акурат у Сміта! А каля яго, у цэнтры гасцёўні, красавалася смуглявая італійка, гэткая цемнаскурая пантэра, апранутая ва ўсе тоны і колеры шчодрай ураджайнай восені — ад залаціста-жоўтага да барвова-карычневага. У вясёлым тлуме я не расчуў ейнага імя. Пасля я заўважыў, як Сміт сціскае яе ў абдымках, быццам выціскае п'янкое віно з сагрэтых сонцам вінаградных гронак. Дурны ёлуп, падумаў я. Шчаслівы кабель, пазайздросціў я. Жонка ў горадзе, каханка за горадам. А ён выціскае віно — і не п'янее. Шыкоўна! Але я вырашыў не заставацца да канца віннага фэсту і незаўважна выслізнуў за дзверы.

— Мне ўжо не церпіцца ведаць развязку, — сказаў спадарожнік, спрабуючы адчыніць акно.

— Не перабівай, — сказаў апавядальнік. — На чым я там спыніўся?

— Як ён выціскаў віно.

— Ну, вось. Калі вечарынка скончылася, я дачуўся-такі, як завуць тую красуню-італійку. Місіс Сміт!

— Ён зноў ажаніўся?

— Наўрад ці. Не паспеў бы. Агаломшаны, я падумаў быў, што ў яго два колы сяброў. Адны ведаюць гарадскую жонку, а другія — загарадную каханку. Сміт не такі дурань, каб мець дзвюх жонак! Іншага тлумачэння быць не магло. Загадка!

— Далей, далей, — нецярпліва прыспешыў маладзён.

— Сміт тае начы быў у гуморы і падвёз мяне да чыгункі. Па дарозе ён у мяне спытаў:

— Як табе мае жонкі?

— Жонкі? А іх у цябе шмат? — здзівіўся я.

— Канешне, шмат! У мяне іх было каля дваццаці за апошнія тры гады, кожная наступная лепшая за папярэднюю. Калі хочаш — падлічы. Калі ласка!

Калі мы спыніліся ля чыгункі, ён дастаў таўшчэзны фотаальбом. Сміт гартаў фоткі і пільна ўзіраўся ў мой твар.

— Не, не, — смяяўся ён, — я не Сіняя Барада і няма ў мяне сутарэнняў, набітых маімі колішнімі прыгажунямі! Зірні ўважлівей!

Я разглядаў фотаздымкі — яны змяняліся, быццам у анімацыйным фільме. Бялявыя, чарнявыя, рыжа-кучаравыя, звычайныя і экзатычныя, неверагодна дзёрзкія і надзвычай пакорлівыя глядзелі на мяне то з хмурынкай, то з усмешкай. Мігценне фотаздымкаў загіпнатызавала мяне, пасля стала пераследаваць. У кожнай фотцы я бачыў нешта жахліва падобнае.

— Сміт, — сказаў я, — ты, відаць, надта багаты, калі ўтрымліваеш столькі жонак.

— Далібог, не багаты. Зірні яшчэ раз.

Я зноў прагартаў альбом — і разявіў рот. Я здагадаўся!

— Місіс Сміт, якую я бачыў сёння ўвечары, гэтая красуня-італійка і ёсць адзіна магчымая місіс Сміт, — сказаў я. — І ў той жа час, жанчына, якую я бачыў два тыдні таму ў Нью-Ёрку, таксама адзіна магчымая місіс Сміт. Значыць, абедзве жанчыны — гэта адна асоба!

— Малойца, — выгукнуў Сміт, здаволены маёй кемлівасцю.

— Неверагодна! — я не мог у гэта паверыць.

— Але, — прамовіў Сміт з асалодай. — Мая жонка — проста цуд. Яна была найлепшай драматычнай акторкай калі мы пазнаёміліся. Але я, па натуры эгаіст, паставіў пытанне рубам: або ты кідаеш сцэну, або я кідаю цябе. І яна абрала мяне! Бразнула дзвярыма тэатра і пусцілася за мной па цёмных алеях жыцця. Дзікая пантэра ператварылася ў хатнюю котку. Першыя шэсць месяцаў нашага шлюбу зямля не круцілася — яна неслася і трэслася ў шалёным рытме. Але я, па натуры бабздыр, зноў пачаў заглядацца на іншых жанчын, хістаўся паміж імі, як той ківач. А пасля стаў заўважаць, з якім сумам мая жонка заглядаецца на тэатральныя афішы. Неяк я заспеў яе за праглядам тэатральнай калонкі ў «New York Times». Яна плакала ў роспачы. Крызіс. Якім чынам можна было паяднаць такія магутныя амбіцыі, як таленавітая жарсная акторка і блудлівы марцовы кот?

— Неяк увечары, — працягваў Сміт, — я адчыніў акно і згледзеў апетытную пампушку, што праплывала пад вокнамі. У той самы момант у акно заляцела падхопленая ветрам старая тэатральная афіша і прызямлілася акурат на калені маёй жонкі. Гэтыя два імгненныя здарэнні разрубілі вузел нашых непаразуменняў і сталіся нечаканым адкрыццём найвышэйшай асалоды, якую толькі можна ўявіць.

Жонка раптам схапіла мяне за руку.

— Акторка я ці не акторка ўрэшце?

— Вядома, акторка!

— Вось і файна!

Яна выправіла мяне прэч з кватэры і загадала не вяртацца праз усе дваццаць чатыры гадзіны, пакуль яна займалася нейкімі таемнымі пераўтварэннямі. Калі назаўтра я вярнуўся дадому ў шарую гадзіну, як кажуць французы на сваёй цьмянай мове, жонкі не было. Цемнаскурая лацінаамерыканка працягнула мне руку і назвалася сяброўкай маёй жонкі. Яна кінулася на мяне з такой жарсцю, што ў мяне захрусцелі рэбры, і казытліва

пакусвала мае вушы, пакуль я не адштурхнуў яе і, у раптоўнай здагадцы, не ўскрыкнуў: «Гэта не сяброўка, а мая законная жонка!» І мы абое са смеху пакаціліся па падлозе. Але, гэта была мая жонка — толькі іншы макіяж, іншы стыль, іншыя манеры і інтанацыі.

— Мая акторка! — казаў я.

— Твая акторка! — смяялася яна. — Ты мне толькі скажы, якой я павінна быць, і я буду такой. Кармэн? Калі ласка, я буду Кармэн. Брунхільда? Чаму ж не? Я вывучу ролю, пераўвасоблюся, а калі табе надакучыць, сыграю новую ролю. Я пайшла на танцы. Я вучуся сядзець, стаяць, хадзіць на тысячы ладоў. Я таксама запісалася на курсы красамоўства і ў секцыю дзюдо.

— Божа мой, — здзівіўся я. — А гэта табе нашто?

— А вось нашто.

І так мяне кіданула, што я паляцеў дагары нагамі ў ложак.

— З гэтага дня, — сказаў Сміт, — пайшло салодкае, бесклапотнае, шчаслівае, размаітае… адным словам, не жыццё, а найвышэйшая асалода! Незлічоныя выдумкі маёй жонкі стварылі для мяне цэлую галерэю жанчын розных колераў, формаў, памераў і тэмпераментаў. Мая жонка, у пошуках сябе на адмысловай сцэне, нашай гасцёўні, і свайго гледача, мяне, стала для мяне найлепшай акторкай на зямлі. Ці не занадта для аднаго гледача? Не! Я, са сваімі перакідлівымі густамі, гатовы сустрэць яе ў любой ролі, якую б яна ні абрала. Мой талент аматара жанчын нарэшце з'яднаўся з яе шматбаковым геніем пераўвасаблення. Зняволены, я атрымаў волю — кахаючы яе, кахаць увесь свет. Гэта найвышэйшая асалода, павер мне, сябра, найвышэйшая асалода!

Наступіла хвіля цішыні.

Электрычка грукацела па рэйках у снежаньскім цемрыве.

Абодва спадарожнікі, стары і малады, задуменна сядзелі, асэнсоўваючы толькі што расказаную гісторыю.

Нарэшце маладзён зглытнуў і ўтрапёна заківаў.

— Твой сябар развязаў свае праблемы, гэта так.

— Ага.

Маладзён хвілінку падумаў і заўсміхаўся.

— У мяне таксама ёсць сябрук. У яго падобная сітуацыя, але іншая. Назавем яго Квілан?

— Добра, — паспешліва адказаў стары, — толькі хутка, а то я зараз выходжу.

— Аднаго разу, — пачаў маладзён, — я бачыў Квілана ў бары з казачнай рудавалосай красуняй. Натоўп расступаўся перад ёй, як мора перад Майсеем. «Проста цуд!» — падумаў я, акрылены. Праз тыдзень я сустрэў Квілана ў Грынвічы, з ім была маленькая тоўстая кабета ягонага ўзросту, гадоў каля трыццаці двух, але такая недагледжаная, што выглядала старэйшай за яго. Рохля дый годзе, як сказалі б ангельцы, таўсматая, насатая, няўмелы макіяж, спушчаныя панчохі, валасы што павуціна, але такая ціхая і слухмяная, нібыта для яе найвышэйшай асалодай было ісці поруч з ім і маўчаць. «Авохці мне! — падумаў я, — вось гэта і ёсць ягоная бедная жонка, што багоміць зямлю, па якой ходзяць ягоныя ногі. А вольнымі гадзінамі ён забаўляецца з чароўнай рудавалосай красуняй. Які сум! Які сорам!» І я пайшоў сваёй дарогай.

Праз месяц я зноў сустрэў Квілана, калі той хацеў быў занырнуць у адзін з пад’ездаў на Мак-Дугал-стрыт. «О, Божа! — гукнуў ён, спатнелы ад хвалявання. — Маўчы! Не выдавай мяне маёй жонцы!» Я гатоў быў паабяцаць маўчаць, калі раптам аднекуль зверху Квілана паклікаў жаночы голас. Я ўзняў вочы і аслупянеў. З акна выглядала тая самая маленькая таўсматая кабета!!! Усё раптам стала на свае месцы. Рудавалосая красуня — ягоная жонка! Бліскучая інтэлектуалка, яна і танцавала, і спявала, і тактоўна ўмела падтрымаць гутарку. Тысячарукая багіня Шыва, найлепшы ручнік, калі б то ні было вытканы смяротнай рукой! І ўсё ж яна надакучыла.

І мой сябра Квілан мусіў здымаць гэты катушок на паддашку, дзе два разы на тыдзень ён мог спакойна пасядзець і памаўчаць ці прагуляцца па цьмяных завулках з гэтай добрай, цёплай, хатняй, утульнай, маўклівай торбачкай, якая была яму зусім не жонкай, як я раней думаў, але каханкай!

Я паглядзеў на Квілана і на ягоную дародную сяброўку ў акне і паціснуў яму руку з нейкай новай цеплынёй і разуменнем.

— Ні слова, будзь пэўны, — сказаў я.

Апошні раз я іх бачыў у кулінарыі, Квілана і ягоную каханку, яны сядзелі моўчкі, трымаліся за рукі, пяшчотна глядзелі адно на аднаго і елі бутэрброды з вяндлінкай. Па-мойму, і ён знайшоў для сябе найвышэйшую ў свеце асалоду.

Электрычка затрубіла, засвісцела і запаволілася. Абодва мужчыны, падымаючыся, спыніліся і зірнулі адзін на аднаго ў здзіўленні. І адначасова выгукнулі:

— Ты выходзіш тут?

Абодва кіўнулі і заўсміхаліся.

Яны моўчкі прайшлі да выйсця і, калі электрычка спынілася пасярод золкай снежаньскай ночы, выйшлі і парукаліся.

— Шчасліва, перадавай прывітанне містэру Сміту.

— І ты маё містэру Квілану!

Два сігналы аўтамабіля пачуліся з абодвух бакоў станцыі. Абодва мужчыны паглядзелі на адну з машын. У ёй сядзела прыгожая жанчына. Абодва паглядзелі на другую. І ў ёй сядзела прыгожая жанчына.

Яны разышліся, азіраючыся крадком, як школьнікі, углядаючыся ў машыну, да якой набліжаўся колішні суразмоўца.

«Цікава, — падумаў стары, — гэтая панна ў машыне ягоная…»

«Цікава, — падумаў маладзён, — гэтая пані ў машыне ці не ягоная…»

Але абодва ўжо беглі да сваіх машын. Хлопнулі дзверы, як стрэльба ў апошняй дзеі.

Машыны паехалі. Станцыя апусцела. І снежань апусціў на дол сваю снежную заслону.

*1963*

*Пераклала з ангельскай Паліна Маслянкова*

# Дар'я Вашкевіч

## Гісторыі маленькіх смерцяў

* * *

Ён ёй: «Давай будзем кахаць адно аднаго да смерці!»

Яна яму: «Не, дзякуй!»

Ён: «Падумай толькі: у нас з табой наперадзе — вечнасць!..»

Яна: «Доўнт проміс мі форэва, джаст лав мі дэй бай дэй…» — ну, класіку спявае, з Сашы Рыбака.

Ён пайшоў і павесіўся. У іх ніколі не супадалі музычныя густы.

* * *

Верачка атруцілася, бо бацькі не набылі ёй скутэр.

Яна акуратна вывела «А вось атрымайце!» на снежнабелым хрусткім альбомным аркушы, выпіла 3 пакункі парацэтамолу, падумала і выпіла яшчэ два. Потым з'ела халодны пельмень, што самотна туліўся ў рондалі, пачысціла зубы, падфарбавала вусны драматычнай чырвонай памадай, апранула белую саколку з карункамі і прыгожа лягла на канапе.

Потым раптам узгадала, што яшчэ варта было б памыць валасы, але ўжо не паспела.

Так і памерла з нямытымі.

* * *

Вераніка працавала балярынаю ў Тэатры. Трэніравалася штодзень па 10 гадзінаў, сцірала, як водзіцца, да крыві пальцы на нагах і снедала аўсянкай на вадзе.

Бацька Веранікі быў галоўны дырыжор Тэатра, маці — памочнік рэжысёра. Яны абодва дужа ганарыліся дачкой, якая падавала неблагія надзеі.

Вераніка тым часам таемна марыла аб прафесіі кандытаркі. Ёй штоноч снілася, як яна залівае танюткімі нітачкамі карамелі амаль гатовы торт «Банофі», прапітвае каньяком бісквітнае печыва для цірамісу, узбівае вяршкі для фруктовага пірага і растапляе чорны шакалад для фандзю. Аднак ніколі ў сваіх снах Вераніка не каштавала гатовых дэсертаў.

Аднойчы Вераніка сасніла, што гатуе піроржныя «Бульба»: яна скручвала халодныя шарыкі ды ўкачвала іх у гарэхі ды цукар. Шарыкі атрымліваліся такімі шурпата-прыемнымі ды пругкімі, што Вераніка ўрэшце не вытрымала спакусы ды паклала адзін з іх у рот. Гэткае феерыі смаку Вераніка не памятала ад часоў дзяцінства: ноткі ванілі перапляталіся з араматам какавы, арэхаў і — зусім крышачку, ненавязліва — карыцы. Вераніка прыглынула шарык і ўзяла яшчэ адзін. Потым яшчэ. І яшчэ…

Бацькі знайшлі здранцвелую Вераніку зранку.

Паталагаанатам канстатаваў смерць ад завароту кішак. У страўніку Веранікі знайшлі рэшткі 48-мі піроржных «Бульба».

***

Пісьменнік Саша, насуперак модзе, быў філантропам: лёгка заводзіў знаёмствы, з гэткай жа лёгкасцю іх падтрымліваў і прывозіў сябрам з замежных паездак магнiцікі. Сябры яго любілі — за магнiцікі ў тым ліку. А яшчэ за тое, што Саша часцяком частаваў іх алкаголем.

Аднойчы Саша піў з немаладымі літаратурнымі крытыкамі ў бары «Кефір».

«Чулі? А Лёшка Грынько кніжку сваю апошнюю на амерыканскі грант надрукаваў. Няяя… Нешта зусім безгустоўны народ — амерыкосы, калі на такую бязглуз-

дзіцу бабло выдаткоўваюць…» — мовіў літкрытык Раевіч і задумліва перакуліў унутр сябе чарку.

«Не кажы, Рома,» — падтрымаў калегу літкрытык Кандрушэвіч і, хруснуўшы неабгрунтавана дарагім салёным агурком, дадаў: «Гаўно гэтая Амерыка!»

«Амерыку не трожце, сволачы!» — раптам схамянуўшыся, нема крыкнуў Саша, ударыў сябе кулаком у грудзі… пасля чаго згубіў раўнавагу і ляснуўся з высокага барнага зэдліка долу. Падчас падзення ён выцяўся скроняю аб востры край барнай стойкі ды вокамгненна сканаў.

Літаратурны бамонд быў глыбока ўзрушаны Сашавай смерцю. За спачын ягонай мяцежнай душы пілі тры з паловай месяцы.

***

Ніначцы жыццё абрыдла неяк нечакана і беспадставова, але моцна. Аднак, каб самой накласці на сябе рукі, Ніначка не адчувала патрэбнае смеласці. Таму яна вырашыла не валындацца з рознымі атрутамі-myламі-вяроўкамі, а проста выклікала таксоўку, пад’ехала на ёй да Цэнтральнага сквера і, абняўшы нагу бронзавага Голуба Міру, голасна і абыякава крыкнула: «Не!»

Спраўдзіўшы Ніначкіны чаканні, у ейны чэрап адразу ўпілася трапная куля. Было небалюча й хутка — як і марыла Ніначка. Праўда, балюча потым было ейным сваякам, але гэта не мае дачынення да Ніначкі, бо яна болей не жыве. І, магчыма, мае рацыю.

***

Адзначыўшыся на прахадной а 9:07 у панядзелак, працаўнік Бягомльскага заводу мясных ды кілбасных вырабаў Алег Макаранка хістка рушыў у цэх № 3. Алег быў не ў гуморы: усе ягоныя косткі нылі, галава гула стараславянскім звонам, у роце было нібыта напхана

паперы і да горла падступна падкатваў камяк. Аднак суровыя мужчыны проста так не здаюцца, таму, лаючыся і глытаючы «Мінскую-4», Алег закінуў у вялізны чан-мясарубку 35 кіло фаршу, каліва жэлаціну, 16 дробак цэлюлозы, 28 жменяў мукі, прыгаршчу крухмалу, тры пальцы селітры і заліў усё вадой (на вока). Потым Алега званітавала — акурат у варыва. Алег з палёгкаю абцёр вусны і, збольшага задаволены вынікам сваёй кулінарнай творчасці, абаперся на чан і неўпрыкмет прыснуў. Мясарубка працавала ў аўтаномным рэжыме: яна была кітайская і вельмі працаздольная.

Роўна праз тыдзень кавалак кілбасы «Сонечная» Бягомльскага заводу мясных ды кілбасных вырабаў ехаў у плацкартным вагоне цягніка «Полацк-Баранавічы». Чэрвеньскі дзень ззяў адчайна-сінім небам, мігцеў палявымі рамонкамі за акном і пасвістваў жвавым ветрам. Раптоўна ў летне-лянівай цішыні плацкарты прагучала бескампраміснае «Валя, наразай!»

У паветры бліснуў нож.

* * *

«…Госпадзе, ну што ж мне за дэбілы такія заўжды трапляюцца?..» — бедавала Душа, тушачы цыгарэту аб уласную падэшву і ў чарговы раз разгортваючы газету «З цела ў цела» на старонцы «Вакансіі».

## Ася Волкава

### Свабода

Свабода — гэта калі ведаеш,
Што за пачуццё асабістай выключнасці
Усё жыццё будзеш расплачвацца
Адзінотай.

Свабода — гэта калі кожны
Можа сказаць,
Што першы катрэн твайго верша —
Пафаснае фуфло.

Таму свабода — гэта калі кожны
Можа з гонарам прамовіць:
«Так, я підар!
Але і астатнія кандыдаты таксама!»

Дарэчы, свабода — гэта яшчэ і
Калі дзяўчына выкарыстоўвае
У сваіх вершах словы:
*Підар, блядзь і піздзец.*

Свабода — гэта ведаць, што
Праўда заўсёды адзіная,
Але ў кожнага яна
Свая, бо

Свабода — гэта пісаць верш пра свабоду
Свабодным вершам, і ведаць, што
Адзінае тваё наканаванне —
Публікаваць санэты пра каханне.

## Верш пра хлебаробаў

Калі-небудзь я напішу
Верш пра хлебаробаў.
Там будзе рэалістычна выпісаны
Вобраз хлебароба,
Ягоныя пот і кроў,
Там будзе пра жытнёвы колас,
Матуліны рукі, дзяжу
І маленькае зярнятка, што стала хлебам.
Калі-небудзь я абавязкова
Напішу верш пра хлебаробаў.

Але мне, чамусьці,
Усё часцей і часцей
Думаецца пра тыя зярняты,
Што не здолелі прарасці.

Хтосьці ўвесну шчодра рассеяў
Тысячы тысяч зярнят.
З пяцісот адно не дало парастка.

І вось ляжыць яно ў зямлі,
І так яму горка і крыўдна,
Што яно пачынае плакаць.

Зерне плача.

На самоце я часта чую
Гэты плач.
Так плача безвыходнасць.
Безвыходнасць, абцяжараная зямлёю.

* * *

*Ш. В.*

Гэта як разношваць
Новыя балетныя тапачкі.

Зробленыя з натуральнай скуры,
Спачатку яны крышку цесныя
І муляюць вялікі палец.
Я намагаюся цярпець гэты тупы боль, бо ведаю:
Хутка скура пацягнецца,
І тапачкі будуць добра сядзець на назе.

Прыкладна такім жа чынам
Перажываецца і расстанне.

Парадаксальна, але пройдзе час,
І я завяду сабе
Іншыя балетныя тапачкі.

## Побытавы постмадэрнізм

Кузьма Чорны аднойчы напісаў,
Што ведае:
«*Не можна так жыць,*
*Абы жыць.*
*Трэба шукаць таго,*
*Каго трэба з замілаванасцю ведаць*
*І каго трэба ненавідзець*».

Вось і некаторыя мае асабліва дасведчаныя сяброўкі
Кажуць, што файна было б
Мыць тваёй кашуляй падлогу.

## Пакой

Седзячы ў супрацьлеглых кутах,
Мы спачатку моўчкі пазіраем адно на аднаго.
Праз нейкі час мы пачынаем звыкацца
З нашай прысутнацю,
Усё ж такі
Нам тут жыць разам…

А ўжо на другім тыдні
Мы пачынаем ссоўваць ложкі.
Спачатку так,
Каб было магчыма трымацца за рукі,
Але паступова мы прысоўваем нашыя ложкі
Адзін да аднаго вельмі шчыльна.
У хуткім часе мы можам заснуць
Толькі абняўшыся.
І чым далей,
Тым мацнешыя робяцца нашыя абдоймы.

Па начах я адчуваю,
Што мне цяжка дыхаць праз тое,
Што ты абдымаеш мяне вельмі моцна.
Потым высвятляецца,
Што не так ужо і проста вызваліцца,
А тым часам мне робіцца
Усё больш горача і ўсё цяжэй дыхаецца.

І вось я выбіраюся з ложка,
Іду на кухню і наталяю смагу тым, што ёсць:
Чырвоным віном з адкаркаванай пляшкі.
Проста так, з рыльца.
Босая, у адных майтках ды станіку
З бутэлькай віна ў руцэ я выходжу з пакоя,
Каб больш сюды ніколі не вярнуцца,
Замыкаючы за сабой усе магчымыя замкі.

Я выкідаю ключы.

На ўсялякі выпадак.

* * *

Бабуля расклала
Карты і распавяла,
Што бачыць полымя і мора.

Мужчына-мора
Такі шырокі і глыбокі,
Што яго нельга ані зразумець,
Ані абхапіць рукамі.
Толькі прайсціся басанож
Па ягоным беразе.

Мужчына-полымя
Нібыта перакідвае
У далонях сонечны шар,
А калі кранаецца скуры,
То робіцца горача.
У ім жыцця столькі,
Што можна задыхнуцца.

Бабуля яшчэ раз
Расклала карты і распавяла,
Што мора — гэта мая душа,
А полымя — плоць.

* * *

Што ні кажы,
А ацтэкі ведалі жыццё.

Нават іхні бог, што апякуецца творчасцю,
Сядзіць на троне з марыхуаны.
Час ад часу
Сваімі белымі тонкімі пальцамі

Адрывае каліўца,
Размінае яго,
Падносіць да носа,
Глыбока ўдыхае пах,
Кідае пакамечанае каліўца ў рот
І доўга ганяе яго языком
Ад шчакі да шчакі,
Хвіліну сядзіць задуменны,
Сплёўвае.

І так гэты ацтэкскі бог
Сядзіць усё сваё бясконцае жыццё:
Адрывае і сплёўвае,
Адрывае і сплёўвае…

* * *

Мужчыны-рамантыкі пахнуць дымам,
Бо кожнага разу, уцякаючы,
Яны пакідаюць за сабою папялішчы,
І калі кранучца скуры рамантыка языком,
Можна адчуць у роце смак попелу.

Мужчыны-курцы горкія на смак,
І калі пацалуеш такога мужчыну зраніцы,
Да вечара можна так і не пракаўтнуць
Гэтую горыч.

Адно паэты, ад Байрана
Да апошняга жывога постмадэрніста,
Пахнуць дымам, і пацалункі іх
Горкія на смак,
Бо паляць яны беспрабудна.
І той самай запалкай
Пакідаюць папялішчы рукапісаў.

## Кацярына Глухоўская

* * *

Я напісала б табе ўсе пралескі ўвесну,
Вывела б сонца ў нябёсах нясталай рукой,
І па сумётах сняжынкам бы я балесна
Дзеля цябе вымалёўвала неспакой.
Я б напісала стосы з травой пажоўклай,
Лёгкі духмяны вянок на твае валасы,
Вербу з пухнатай прыгнутай крыху галоўкай,
Пошчак птушыны ды слуцкія паясы.
Я напісала б крыніцы і навальніцы,
Водар чаромхі, гронку рабін і бэз.
Усё, што пасля малітвы нам будзе сніцца,
Колкі бурштынавы і залаты агрэст.
І журавіны ў першае ліставеі,
На золкім золку світання як ззяе шаль,
Як у марозы чырвоны агніска грэе,
Зёлкі гарбаты як пахнуць летам амаль.
Я напісала б табе Раство і Вялікдзень,
Пух тапалёвы з дзіцячых тваіх алей.
Як хрыбусцяць старонкі, як ззяюць зарніцы,
Як ад усмешкі робіцца весялей.
Я напісала б табе на акне карункі,
Поплаў, дзе купкі красак, мноства буслоў.
Жыта на скрыпцы зямной нацягнула б стрункі,
Я напісала, колькі хапіла б слоў.
А не хапіла — выдумвала б іх па ходзе,
Душу пускала б коньмі ў святы мурог…
Усё пісала б, што ты б для мяне знаходзіў,
Каб не паспеў напісаць усё гэта Бог.

## Мой распрануты дом

Мой распрануты дом нібы ляціць з абрыву.
Мой распрануты дом — прытулак розных моў.
Паспешлівасць як боль, прытрызненнае дзіва —
Мой распрануты дом заплюшчыў вокны зноў.
Мой распрануты дом шчыльней смыкае дзверы:
Яго душа і так працятая наскрозь.
Я не магу зайсці. Ён не дае мне веры,
І просіцца знутры знявечаная злосць.
Мой распрануты дом адмовіўся ад працы.
Не хочацца яму мяне перакладаць.
Не хоча разумець. Не хоча разбірацца.
Не хоча размаўляць. І нельга рады даць.
Мой распрануты дом губляецца між жыта,
Ці, мабыць, гэта я ўцякаю ад яго,
Бо падмануты дом даўно не мной абжыты
Ў туманах гарадскіх і прыгары снягоў…

*** * ***

Прысвяткі, Раство. Чакаем Бога.
Елкі пах і цеплыня ў душы.
Зорка ў небе першая дрыжыць,
Косы распускае з асцярогай.
Тонкім пальчыкам анёл-дзіця
Ўсё малюе маразы па шыбах.
Печаныя яблыкі і рыба,
На стале гарачая куцця…
Пухкі снег, святая завіруха:
Вецер учыняе небатрус.
Зноў па-беларуску нейкі блюз
Котка напявае пачне ля вуха…
Разам родным верыцца ў цуды:
Сябра зноў змагаецца са сном,
Каб такі заўважыць: за акном
Па сумётах Бог ідзе разуты.

## Наканаванасць

Так трапяткі блакітны матылёк,
Святла размыты сонечным струменнем,
Да кветкі кволай хіліцца здалёк —
Крылатай, як і ён, між пустазеллем.
Дзе ніва патыхае цеплынёй,
І супакой у ласкавых хвалях ветру.
Лунае ён, празрыстасцю сваёй
Свабодны, непаўторны, непрыкметны.
Ледзь у танцы набліжаецца — і зноў
Ад летуцення быццам улятае.
Ён кліча кветку ў небасхіл з палёў,
Не ведае, што з кожным узмахам — далей.
І вось, самотна гінучы ў траве,
Імкнецца кветка ўвыш з апошняй сілы,
Нібы не разумее, што павек
Ёй суджана раслінай быць бяскрылай…

## Нібы калыханка

Люлі-люлі.. Над калыскай
Навісае вечар нізка:
На маленькую галоўку
Сны ў вянок сплятае лоўка…

Люлі-люлі… У цёплым траўні
Забуяе разнатраўем…
Люлі-люлі… А зімою —
Кветкай зорнай над зямлёю…
Лета сонцам у рамонкі
Васілёк падорыць гонкі…

Як увосень вецер вее,
Вечар, з белай ліставеі

Лубін прынясі дахаты,
Верасы нарві на святы,
Толькі ў горкую часіну
Не заві ў вянок шыпшыну…

## Іду з зімаў. Акраверш.

Іду па беразе вясны,
Дзе шлях і твой ляжыць таксама,
У беларускі край лясны

З малітвай аднаслоўнай: «Мама»…

З ігліцай у вачах сваіх
І галавою непакрытай
Мой бор чакаў мяне як мніх,
Але спеў ветру пазабыты
Ўжо ў спілаваных соснах сціх…

## Пушчанскі спеў

Налібоцкая пушча, хваёвы лес,
Ты празрысты кляштар карабельных сосен.
Павучок на прадплечча бярозкі ўзлез,
Зачапіўшы за павуцінне восень.
Пералікам песень тваіх бароў
Нам лапоча струмень развітаннем познім.
І далёкі чуецца роў зуброў,
Які мы з сабою напэўна возьмем…

Ты штодня пісала наш дзіўны лёс:
І калісьці тут у тваім бярлогу
Нараджаўся ў люты зімы мароз
Сын мядзведжы, падобна да Сына Бога.

А вясною ён да Смаргонскіх груд
Бег спаткаць жыцця маладога волю —
І трапляў у мядзеведніцкі свет пакут,
Каб пад нечы бубен танчыць — ад болю…

Так і кожны, каму Госпад волю даў,
Не паспее з бярлога да неба выйсці,
Як патрапіць у яму, ды будзе там
На рашотцы распаленай абез выйсця.
І як вогнішча стане чырвоніць прут,
Закіпіць яго кроў і журба ашчэрам —
Але што можа ён, нараджоны тут
Меншым, чым мядзведнік ягоны, зверам?..

Налібоцкая пушча! Сцяжына вось,
Па якой і нам дападаць да пасткі.
Але ёсць справядлівасць, і вера ёсць,
І яшчэ не чуваць апраметнай ляскат.
Ды і што бы там далей ні было,
Мы паспелі зведаць дзень сонца летні,
Мы паспелі ўбачыць Хрыста святло —
І не выпаліць гэтага ў нас мядзведнік.

## Павел Капанскі

* * *

я нібы бочка квасу
жоўтая з чырвонымі плямамі
адзіны аб’ект у сусвеце
на які не звяртае ўвагі
NASA

ля майго кранчыка
сядзіць прадавачка гадоў 19
яшчэ ўчора мроіла
пра лакальныя рэвалюцыі
на майданчыках

а сёння разлівае
мяне забрадзілага
ў страўнікі мінакоў
і не думае ні аб чым іншым

— мне, калі ласка, нуль пяць капанскага

ой, я б вам не раіла такое лайно
лепей лідскага ці спраўнага

ён жа, капанскі гэты,
амаль чвэрць веку ў бочцы
гадуецца
так паляжыць
пазней перакуліцца
а бочка з месца не рухаецца
стаіць тут, на францыска скарыны
зрошчаная сімпатыяй нейкай Марыны

што цяпер у Польшчы
а ведаеце што ён робіць
калі згадвае яе?..
правільна,… ыць…

а ведаеце, чаму я сяджу
і торгаю ягоны краньчык?

бо ён паабяцаў мне
наліць вершаў
у мой пластыкавы стаканчык…

* * *

я расхерачыў палову здароўя,
каб не трапіць у войска.
мяне размеркавалі ў школу:
я люблю свой лёс,
ён прыўкрасны.

я расхерачыў палову здароўя,
каб мець сацыяльныя льготы.
яшчэ пяць гадоў
выплачваць мне крэдыт
бабулі з вёскі,
што ўжо не існуе:
я люблю бабулю,
яна прыўкрасная.

я расхерачыў палову здароўя,
каб без хіміі лавіць глюкі.
і я пабачыў,
як насупраць школьных вокнаў
сцыць п’яны амарал:
я люблю пралетарыят,
ён прыўкрасны.

я расхерачыў палову здароўя.
а зараз шукаю таго,
хто расхерачыць мне другую,
каб яго палюбіць,
бо ён будзе яшчэ прыўкраснейшы.

* * *

я хачу напісаць цябе

не з усмешкай загадкавай
як у Моны Лізы

не з вачыма шырокімі
як маляваў Мадыльяні

проста тую частку цябе
якую можна абняць

адно калі
быць на адлегласці
і ні пазваніць
ні напісаць
нельга

* * *

адчыні вакно шырэй

я буду на іншым ложку
з іншай
але прадзьме нас
з табой

ты будзеш кашляць
і піць таблеткі майго суседа

я буду паліць кальян
і абдымаць іншую

і я буду піць тое
ад чаго ў цябе
баліць галава
з іншай

адчыні вакно шырэй

скажаш:
мне рана ўставаць
не кладзіся, адкажу
і тады можна будзе
адразу праз парк
за рукі
да парапета і назад

адчыні вакно шырэй

сачы
за маімі крокамі
ад цябе

## я люблю білоруський рубль

я люблю білоруський рубль

він зробив так, що люди
схопилися та кинули їсти
але пити будуть
нейначе як ще забутися
що він існує?

я буду ставити поруч з молитвословом
білоруський рубль

бо він хутко буде
ніби святий
світити нам з неба

я буду робити
з білоруського рубля салати
різнокольорові, гарні
бо на продукти не вистачить

на бульбу можна забутися
на м’ясо можна забутися
можна забутися на ресторани
та кав’ярні
а на білоруский рубль забутися

неможливо
бо він маячить привідом
минулого щастя
минулої епохі
коли в Україні долар підскочив
а в нас все було заебця

я люблю білоруський рубль
бо завжди починаєш любити тих
хто біжить від тебе
аж дим піднімається
і горить все навколо

## Камбой

— І што дзіўна, мама, толькі за ім, ні за кім іншым, чуеш? Толькі за ім дзверы не зачыняюцца. Кожнага разу я выхожу з-за прылаўку і самаруч зачыняю… зачыняю… зачыняю…

Лунала рэха па кухні, залятала ў духоўку, у імбрык, лядоўню і нарэшце ў фортачку акурат пад дождж.

— Мама, гэта як у кіно. А ў мяне нібы не «Бутэрбродная, а «Салун». А ён… ён сапраўдны *камбой*, мама. Сапраўдны Джон Уэйн. І ў яго быў конь. Кажу табе. Бо ён — вольная птушка, якая ляціць туды, дзе яшчэ няма лічыльнікаў вады.

Рэха прамакала пад дажджом і білася аб асфальт, злівалася з прыбардзюрнымі раўчукамі і напраўлялася ў каналізацыю.

— Ён ніколі мне нічога не кажа, ні табе феньк, ні хаў ар ю. Проста кладзе на прылавак грошы і ківае ў бок цыгарэт Мальбара і таннага джыну за трынаццаць тысяч. І сыходзіць. Адразу скразняк. Мама, камбоі, яны такія, яны робяць дзіркі, ад якіх паўсюль скразнякі. Я ведаю, я глядзела ў кіно.

А пакуль мама ківала ў такт доўгага і нуднага маналогу сваёй дачкі, рэха праходзіла ачышчальныя станцыі і плыло насустрач крану ў інтэрнаце для працаўнікоў водаканала. У пакой 414-б.

— Мама, калі ён прыдзе наступнага разу, я скажу наўпрост, што хачу быць з ім да апошняга селядца, што выпусціць Санта Брэмар. Так і скажу… скажу… скажу…

*

Раніцай вада з-пад крана ціхенечка галасіла «скажу… скажу…» і «зачыняю… зачыняю». Гэтымі двума словамі камбой шостага разраду ўмываў сваё шчаціннe і бяздумна глядзеў у нямытае люстра. Змена пачыналася а восьмай раніцы.

У маршрутцы ён не падымаў погляду ад падлогі. Як і ўсе іншыя: маладзён з начной дыскатэкі, які шкадаваў, што так і не трахнуў тую брунэтку, брыгадзір з лесапілкі, які думаў, каго б гэта з маладых стажораў паслаць па гарэлку на апахмел, і фізрук раённай школы, ад якога ўчора пайшла жонка да інфарматыка. Фізрук ведаў: такі цяпер час, кампутары і ўся херня. Камбой не думаў ні аб чым.

А потым нарады. Зноў Далёкія Пердзі. Другі тыдзень запар, як лічыльнікі, дык у Пердзях. Але няма чаго

рабіць, завадзі, Пятровіч, аварыйку колеру халоднага заходу, едзем.

А ў Далёкіх Пердзях ёсць «Бутэрбродная». Там, у гэтай самай «Бутэрброднай», ёсць тое, чаго няма амаль нідзе. «Мальбара». Дзверы там чамусьці паламаныя, ніколі не зачыняюцца. Галоўнае, ёсць дзе перад ад'ездам дадому жывіцельнай вадзіцы прыкупіць.

*

Мітрыдат Аркадзьевіч у першую чаргу пайшоў у магазін па алкагаль… зрабіў некалькі сумнеўных крокаў і згадаў, што, ядрыць яго па загрыўку, алкагаль забаронены ў сяле. Сам жа не так даўно падпісваў дэкрэт і сам жа даваў інтэрф'ю гэным «карыспедантам».

— Алкагаль у нас забаронены. Гэта, ядрыць… прабачце. Гэта новая праграма за цвярозы лад жыцця.

— Што, нельга піць увогуле? — пыталіся «карысныя педанты» і тыкалі ў нос камеру.

— Не, піць можна, але алкагаль у нас забаронены.

— І як вы гэта так зрабілі, цікава.

— Ну, як, гэна… спачатку забаранілі піць удзень, але потым пабачылі, што ўсе п'юць ноччу, таму і ноччу забаранілі піць.

— Добра, а калі тады можна піць?

— У прамежнасці паміж ноччу і днём.

— Прамежку?

— У прамежнасці, а што, у сталіцы сёння прамежак? У нас тут, ядрыць гэтыя букіністычныя лаўкі, праблема са слоўнікамі тлумачальнымі…

— А скажыце, калі ласка, які ж прамежак паміж ноччу і днём?

— Няма прамеж… ку. Я ж вам кажу, піць можна, але алкагаль у нас забаронены. Ну вы і педанты, ядрыць, ні халеры не карысныя.

Карыспеданты з'ехалі, а вось алкагаль з усіх прылаўкаў прапаў. А праграма за цвярозы лад жыцця пачыналася драматычна.

*

«І што, што я яму скажу? Няма джыну, прабачце? А каханне? На чым будаваць каханне, калі няма джыну? Што ж гэта за маць вашу да гары нагамі?!» — думала яна. А яшчэ думала пра тое, што не хапала, каб яшчэ прыйшоў столяр і дзверы парамантаваў. І нервова крэмзала на прабітых чэках асадкай незразумелыя малюнкі. Чэкам не баліць.

А камбой прыйшоў. Як заўсёды, за паўгадзіны да канца працоўнай змены. Пахмуры, стомлены, мокры ад дажджу, што бесперапынна шаптаў цэлы дзень апавяданні Хвылявога. І яшчэ нешта пра трагічную долю і непаразуменні паміж жыццём і мроямі.

Паклаў на прылавак грошы. Іх позіркі сустрэліся. Ейны казаў: «Я цябе кахаю». Ягоны: «Джын і Мальбара, калі ласка». А ўголас яна сказала:

— Джыну няма. Забаранілі.

— Як забаранілі?

— Дэкрэт сельсавета.

— Тады толькі Мальбара.

Каханне забралі з сабою пакрыўджаныя чэкі, якія паляцелі ў расчыненыя дзверы. Скразняк узяў іх у свае далоні, і яны хацелі спыніць камбоя, так падобнага на Джона Уэйна, але дождж прыбіў іх да асфальту, намачыў і затапіў кожнае слова, якое так і не было агучана.

Ён ад’язджаў туды, дзе яшчэ не было лічыльнікаў вады. Ад’язджаў на кані, колеру халоднага заходу. «Зачыняю… зачыняю…» — неслася недзе па каналізацыі. «Скажу… скажу…» — адбівалася ад рукамыйніка кожнай раніцы.

Наступнага ранку прыйшоў столяр і парамантаваў дзверы.

Нарадаў у Далёкіх Пердзяях больш не было…

# Хуліа Картасар

## Скрадзены дом

Мы любілі наш дом, бо ён быў прасторны ды старажытны (у нашыя дні такія старажытныя дамы часта разбіраюць, бо матэрыялы, з якіх яны збудаваныя, можна прадаць па дужа выгодных коштах). Апроч гэтага, у доме жылі ўзгадкі пра нашае дзяцінства ды пра нашых прадзедаў, дзеда па бацькоўскай лініі і бацькоў.

Мы з Ірэнэ прызвычаіліся жыць удваіх, хоць гэта выглядала на шаленства, бо ў доме без аніякіх праблемаў магло б пасяліцца чалавек восем. Устаючы а сёмай, мы разам прыбіралі дом — недзе да адзінаццатай, калі я пакідаў Ірэнэ дамываць апошнія пакоі ды йшоў у кухню. Снедалі мы апоўдні, заўжды у адзін і той жа час. Пасля сняданку нас не чакалі аніякія справы, акрамя мыцця посуду, таму мы елі дужа няспешліва, думаючы пра свой вялізны ціхі дом і пра тое, як нам самастойна ўдавалася падтрымліваць яго ў парадку. Часам у нас узнікала думка, што менавіта па віне дома ніхто з нас дваіх так і не ўзяў шлюбу. Ірэнэ без відавочных прычынаў адмовіла двум прэтэндэнтам на сваё сэрца, а мая Марыя Эстэр памерла яшчэ да таго, як мы з ёй паспелі заручыцца. Калі нам з Ірэнэ пераваліла за сорак, мы прыйшлі да маўклівай згоды, што, пэўна, нашае суіснаванне брата і сястры мусіць стацца лагічным завяршэннем і тупіковай галіною нашага роду, які пачаў сваё існаванне ў гэтым доме. Мы ўяўлялі, як аднойчы там памрэм: самотныя беспрытульныя кузэны, якія разабралі свой дом дазвання, каб разбагацець за кошт зямлі ды цэглы… Ці, як варыянт, мы маглі б уласнаручна разбурыць дом, пакуль яшчэ не было занадта позна.

Ірэнэ ад нараджэння была дужа рахманай і нікому ні ў чым не замінала. Пасля ранішняга прыбірання дома яна бавіла рэшту дня, седзячы на канапе ў сваёй спальні ды вяжучы. Не ведаю, чаму яна так шмат вязала. Мне падаецца, для жанчынаў гэты занятак стаўся цудоўнаю падставаю, каб нічога не рабіць. Аднак Ірэнэ ў гэтым сэнсе адрознівалася, яна заўжды вязала толькі патрэбныя рэчы: зімовыя швэдры, гольфы для мяне, пончa ды камізэлькі для сябе. Здаралася, звязаўшы якую камізэльку, Ірэнэ адразу ж яе распускала, калі ёй нешта ў гэтай камізэльцы не падабалася. Было прыемна дзівіцца на горку маткоў воўны ў кошыку, якія, нягледзячы на сваё адчайнае змаганне, праз некалькі гадзінаў гублялі форму. Па суботах я выпраўляўся ў цэнтр, каб набыць для Ірэнэ воўны. Яна давярала майму густу, ёй заўжды падабаліся колеры, якія я выбіраў, і мне ніколі не даводзілася вяртаць набытыя маткі. Я скарыстоўваў гэтыя шпацыры яшчэ і для таго, каб завітаць у бібліятэкі ды пацікавіцца, ці не з'явіліся якія навінкі з французскай літаратуры. Усё было беспаспяхова, бо з 1939 года да Аргенціны не даходзілі ніякія вартыя ўвагі кнігі.

Аднак жа я тут распавядаю зусім не пра сябе, а пра дом, пра дом ды Ірэнэ. Дык вось, я спрабаваў уявіць, што б рабіла Ірэнэ, калі б не займалася вязаннем. Напрыклад, кнігу можна перачытаць. Але немагчыма, распусціўшы гатовы швэдар, звязаць ягоную дакладную копію. Аднойчы ў ніжняй шуфлядцы камоды з камфоравага дрэва я знайшоў процьму хустак — блакітных, зялёных, лілёвых. Яны былі закіданыя нафталінам ды нагрувашчаныя ў кучу, як у галантэрэйным аддзеле. Я так і не наважыўся запытаць Ірэнэ, што яна збіралася з гэтымі хусткамі рабіць. Нам не трэба было зарабляць сабе на жыццё: штомесяц мы атрымлівалі прыбытак з гаспадаркі ў палях, нашыя капіталы раслі. Ірэнэ проста падабалася вязанне як такое, у яе гэта цудоўна атрымлівалася. Я мог гадзінамі назіраць за рукамі Ірэнэ, у якіх то ўздымаліся, то ападалі вострыя спіцы і якія тым самым нагадвалі

двух вожыкаў з пасярэбранымі голкамі. Я мог бясконца дзівіцца на клубкі воўны, што няспынна варушыліся ў адным ці двух кошыках на падлозе — тое выглядала прыгожа.

Важна таксама згадаць пра планіроўку дома. Страўня, зала з габеленамі, бібліятэка ды тры вялікія спальні месціліся ў дальняй частцы дома, вокны якой выходзілі на плошчу Радрыгеса Пэны. Толькі адзін калідор з масіўнымі дубовымі дзвярыма аддзяляў гэтую частку дома ад бліжняга крыла, у якім месціліся лазенка, кухня, нашыя спальні і гасцёўня, якая злучалася са спальнямі ды калідорам. Уваходзіць у дом трэба было праз вітальню, абкладзеную кафляй; адтуль кратаваная брамка вяла акурат у гасцёўню. Такім чынам, калі нехта заходзіў у дом праз вітальню, ён адчыняў кратаваную брамку і апынаўся ў гасцёўні, дзе паабапал знаходзіліся дзверы нашых з сястрой спальняў, а насупраць — калідор, які вёў у аддаленае крыло дома. Калі крочыць па калідоры, можна было трапіць да дубовых дзвярэй і, прайшоўшы праз іх, апынуцца ў другім крыле дома ці, крыху не дайшоўшы да дзвярэй, збочыць у вузенькі калідорчык, што вёў да кухні і лазенкі. Калі дубовыя дзверы былі адчыненыя, дом падаваўся дужа вялікім, калі ж яны былі зачыненыя, дом нагадваў адну з сучасных кватэраў-каморак, у якіх складана нават павярнуцца. Мы з Ірэнэ жылі менавіта ў гэтым, пярэднім, крыле дома і амаль ніколі не заходзілі за дубовыя дзверы — хіба каб там прыбраць (проста неверагодна, як хутка збіраецца на мэблі пыл!). Буэнас-Айрэс лічыцца чыстым горадам, але гэта тычыцца толькі ягоных жыхароў, і нічога іншага. У паветры заўжды поўна пяску, і дастаткова аднога павеву ветру, каб ён асеў на мармуровых кансолях ды забіўся паміж ромбікамі дыванкоў з макрамэ. Тая яшчэ работка запыласосіць увесь гэты пясок: ён разлятаецца ў паветры і праз імгненне зноўку асядае на мэблі ды піянінах.

Я заўжды буду дакладна памятаць, як гэта адбылося, бо ўсё здарылася хутка й без асаблівага шуму. Была

восьмая вечара, Ірэнэ вязала ў сваёй спальні, а мне раптоўна захацелася запарыць матэ. Я дайшоў па калідоры да прычыненых дубовых дзвярэй ды збочыў у калідор, што вёў да кухні, і раптам пачуў нейкія гукі, якія даносіліся ці то са страўні, ці то з бібліятэкі. Гукі былі неразборлівыя ды глухія, быццам нешта ўпала з крэсла на кілім ці як быццам нехта ціха шаптаўся. У той жа момант ці секундай пазней я пачуў, што гэтыя гукі набліжаюцца па калідоры ад тых дальніх пакояў да дубовых дзвярэй. Не губляючы ні секунды, я кінуўся да дзвярэй і рэзка іх зачыніў, наваліўшыся на іх усім целам. На шчасце, ключ быў з майго боку, а для вернасці я зачыніў дзверы яшчэ й на вялізную засаўку.

Затым я пайшоў у кухню і паставіў награвацца ваду для матэ. Калі я вярнуўся ў пакой з падносам, то паведаміў Ірэнэ:

— Мне давялося заблакаваць дубовыя дзверы ў калідоры: яны захапілі дальняе крыло дома.

Ірэнэ кінула вязаць ды паглядзела на мяне сваімі сумнымі стомленымі вачыма:

— Ты ўпэўнены?

Я кіўнуў.

— Ну, тады нам давядзецца жыць толькі ў гэтай частцы дома, — мовіла яна, зноўку беручы ў рукі спіцы.

Я дужа стараўся, запарваючы матэ, аднак Ірэнэ пакаштавала яго не адразу, бо вельмі паглыбілася ў вязанне. Я памятаю, яна вязала для мяне шэрую камізэльку, якая мне надта падабалася.

Першыя дні нам даводзілася цяжка, бо кожны з нас пакінуў у захопленай частцы дома шмат рэчаў, якія былі нам дарагія. Напрыклад, уся мая калекцыя французскай літаратуры засталася ў бібліятэцы; Ірэнэ часцяком узгадвала пра пляшку «Эсперэдыны»[1] шматгадовай вытрымкі. Даволі часта (аднак толькі цягам першых

[1] «Эсперэдына» — традыцыйны аргенцінскі аперэтыў з мятна-памаранчавым водарам.

некалькіх дзён) мы зачынялі якую-небудзь шуфляду камоды і, скрушна гледзячы адно на аднаго, казалі:

— Тут гэтага няма.

І была яшчэ адна — самая галоўная — рэч, якую мы згубілі з таго боку дзвярэй.

Аднак у сітуацыі, што склалася, былі і перавагі. Працэс прыбірання хаты скараціўся настолькі, што нават калі мы прачыналіся дужа позна — напрыклад, а палове на дзясятую — мы сканчвалі ўсе справы яшчэ да адзінаццатай. Ірэнэ прызвычаілася хадзіць са мной у кухню ды дапамагаць мне гатаваць сняданак. Паразважаўшы, мы вырашылі, што пакуль я гатую сняданак, Ірэнэ можа гатаваць халодныя закускі на вечар. Ідэя нам дужа спадабалася, бо нас заўжды прыгнятала неабходнасць штовечар выбірацца са сваіх спальняў ды брацца за гатаванне вячэры. Цяпер жа нам дастаткова было сесці за стол у спальні Ірэнэ ды частавацца ранішнімі нарыхтоўкамі — нас гэта цалкам задавальняла.

Яшчэ Ірэнэ была радая, што ў яе з'явілася болей часу для вязання. Я некаторы час бадзяўся без справы, узгадваючы свае кнігі, але, каб не засмучаць сястру, узяўся пераглядаць бацькаву калекцыю марак, што дапамагала мне забіваць час. Мы амаль увесь час бавілі разам, ва ўтульнай спальні Ірэнэ, дзе кожны з нас займаўся сваёй справай. Часам Ірэнэ казала:

— Паглядзі на гэтае вочка, якое ў мяне атрымалася. Яно не нагадвае табе па форме лісцік канюшыны?

А праз імгненьне ўжо я дэманстраваў Ірэнэ маленечкі папяровы квадрацік, каб яна ацаніла каштоўнасць якой-кольвечы маркі з выяваю Эйпэн-Мальмэдзі[1]. Нам жылося збольшага добра і пакрысе мы прызвычаіліся не думаць. Жыць не думаючы можна.

(Калі Ірэнэ пачынала размаўляць у сне, я вокамгненна прачынаўся. Я так і не здолеў прызвычаіцца да

[1] Эўпэн-Мальмэдзі — нямецкамоўны раён Бельгіі, які знаходзіцца на мяжы з Нямеччынай.

гэтага голасу, які нагадваў магнітафонны запіс ці клёкат папугая, голасу, што вырываўся наўпрост са сноў, а не з горла. Ірэнэ ў сваю чаргу казала, што мой сон складаецца з чаргі баталіяў з нябачнымі ворагамі, у выніку якіх нават часам звальвалася долу коўдра. Паміж нашымі спальнямі месцілася гасцёўня, аднак мы з сястрой штоноч чулі розныя гукі, якія разносіліся па доме: нечае дыханне, кашаль. Нас абодвух часцяком пачала наведваць бяссонніца, бо нам уяўлялася, як рука незнаёмца паварочвае ў замку ключ…

Не лічачы начных шолахаў, у доме панавала цішыня. Удзень дом гучаў роўным гудзеннем руцінных гаспадарчых справаў, металёвым дзінькannem вязальных спіцаў ды шэптам старонак філатэлічнага альбома. Здаецца, я ўжо казаў, што дубовыя дзверы былі дужа масіўныя. У кухні ды ў лазенцы, якія непасрэдна злучаліся з захопленай часткай дома, мы заўжды размаўлялі грамчэй, а Ірэнэ часам спявала калыханкі. Любая кухня заўжды поўніцца бразгатаннем посуду ды шыбаў, таму іншым гукам у яе прабрацца цяжка. Мы вельмі рэдка дазвалялі маўчанню ўсталявацца ў кухні, аднак калі мы вярталіся ў свае спальні ці гасцёўню, дом апаноўвалі цішыня ды паўцемра і мы хадзілі ледзь не на дыбачках, каб не шумець. Мяркую, менавіта праз гэта я адразу прачынаўся, калі ўначы Ірэнэ пачынала размаўляць уголас.)

А потым адбылося амаль тое ж, што ўпершыню, — толькі з іншымі наступствамі. Увечары мне захацелася піць, і перад тым, як класціся спаць, я сказаў Ірэнэ, што пайду ў кухню глытнуць вады. Наблізіўшыся да дзвярэй спальні (Ірэнэ вязала ў пакоі), я пачуў гоман, які даносіўся з кухні. З кухні ці, можа, з лазенкі — не ведаю, бо заварот калідора прыглушаў гук. Ірэнэ заўважыла, як рэзка я прыпыніўся і, не прамовіўшы ані слова, падыйшла да мяне. Мы стаялі, прыслухоўваючыся да шуму і дакладна ўсведамляючы, што гукі даносяцца з гэтай часткі дома, з нашага боку дубовых дзвярэй —

з кухні ці з лазенкі, калі не з самога калідора, які вёў да нашых пакояў.

Мы не марудзілі ні секунды: я схапіў Ірэнэ за руку і, цягнучы яе за сабой, пабег да кратаванае брамкі, не абарочваючыся. Гукі за нашымі спінамі сталі грамчэйшымі, але па-ранейшаму былі крыху прыглушанымі. Я рэзка адчыніў дзверы, і мы апынуліся ў вітальні. Адсюль нічога не было чуваць.

— Яны захапілі і гэтую частку дома, — мовіла Ірэнэ. З ейных рук звісала вязанне, і ніткі ад яго цягнуліся пад кратаваную брамку, губляючыся за ёй. Калі я заўважыў, што клубкі засталіся з таго боку, то адразу ж распусціў вязанне.

— Ты паспела што-небудзь узяць? — задаў я бессэнсоўнае пытанне Ірэнэ.

— Не.

Мы апынуліся на вуліцы ў чым былі. Я ўзгадаў пра пятнаццаць тысячаў пэса, што захоўваліся ў маёй шафе, аднак ужо, безумоўна, было позна.

На маёй руцэ застаўся гадзіннік, таму я ўбачыў, што была адзінаццатая ночы. Я абняў за талію Ірэнэ (здаецца, яна плакала), і мы рушылі на вуліцу. Перад тым, як мы адышлі ад дома, мяне ахапіла шкадаванне. Я зачыніў уваходныя дзверы і выкінуў ключ у сцёкавую канаву: ніводнаму дурню ўсё адно не прыйшло б да галавы ў такі позні час абрабаваць і без таго скрадзены дом.

*Пераклала з гішпанскай Дар’я Вашкевіч*

## Марыя Лапо

### Двадцать дверей

грязные четверги непрощеные воскресенья
объявляю банный день чтоб отмыть свою совесть и прощением отмолиться
с половой тряпкой в зубах с саблей-шваброй наперевес
я уберу в этом доме все, что только может отсюда убраться
выброшу все к ебени матери

а у ебени у матери стол застелен скатертями
ебеня мать сидит, ждет погоды с моря
она со всеми в заговоре, а со мной в ссоре
я захожу — дочь:
— *на* тебе — меня! — подарочек.
расплатись, расплачись, расплачься за свои грехи
помнишь, сколько в молодости было чепухи-шелухи?
теперь трясись, когда я — молодая красивая не-ты,
заплетаю не в твои молодые косы твои банты
*на* тебе! эти шкафы сервелат и серванты и все ради чего
твоя жизнь рассыпана и растрачена, а моя — устроена, построена и тобой подстроена
ничего не хочу! пусть останутся голые стены
и только — к свету окна выбоина

приду к себе завалюсь на пол у меня банный день

приду завалюсь, в доме так чисто, что никто не заходит
ты в детстве сказала
хорошо бы засеять паркет газонной травой вдруг вырастет целый сад
вдруг вырастет? вдруг

